
„Рэха Пушчы”→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Праз тыдзень - Каляндар 2013

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 50 (2952) Год LVII | Беласток, 9 снежня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Тут найважнейшы праваслаўны дух





Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Мы пасылаем сюды дзяцей, бо верым што гэта найлепшае месца для будавання рэлігійнай і нацыянальнай тоеснасці, — кажа Аляксей Кардзюкевіч, старшыня бацькоўскага камітэта Непублічнай школы імя святых Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.**

**— Я думаю, што тут прадаўжэнне таго, што ў нашай хаце: адзін дух і адно асяроддзе. Нам залежыць, каб дачка глыбока ўрасла каранямі ў сваю культуру, веру. Важна, што ходзіць на ўрокі беларускай мовы і што гэта для яе нармальна, — адзначае архітэктар Тацяна Місіюк. Мая субяседніца задаволеная ўзроўнем навучання і працы настаўнікаў: — І важна, што мы, бацькі, маем уплыў на жыццё школы, — дадае.**

* * *

24 лістапада школа, вядомая ў асяроддзі як *праваслаўная*, адзначыла сваё пяцігоддзе. У сядзібе, што па вуліцы Варынскага 30, з'явіліся вучні, настаўнікі, бацькі, духавенства, прадстаўнікі ўлад горада (Адам Палінскі, Славамір Назарук, Войцех Яновіч, Ежы Кішкель), дыпламаты РБ і Аўстрыі, прадстаўнікі нацыянальных меншасцей (Ян Сычэўскі). Юбілей пачаўся з малебна на старажытнацаркоўнаславянскай мове, каб належным чынам ацаніць спадчыну святых патронаў.

— Пяць гадоў гэта нямнога, аднак калі ўважна прыглядзецца гэта вельмі цяжкі, поўны натугі час і праца многіх людзей. Хай Гасподзь Бог ім аддзячыць, — на пачатку слова ўзяў супрасльскі епіскап Грыгорый. Яго прасвяшчэнства звярнуў увагу на ролю малітвы ў сучасным свеце:

— Малітва гэта аснова. Дзякуючы ёй душа чалавека ўзвышаецца, чалавек здольны памяняцца ў лепшы бок. Тыя, што жывуць з малітвай, не патрабуюць хадзіць да псіхолагаў, псіхааналітыкаў. Хрысціянства гэта дар, які існуе дзве тысячы гадоў, і мы, дарослыя, абавязаны перадаць яго нашым дзецям. Як праваслаўныя, мы павінны руплівіца і працаваць, каб школа развівалася і працвітала. Бо гэта незвычайная справа ў маштабе нашай краіны. Маю надзею, што маладыя істоты будуць расці ў духу Евангелля, што ім прасякнуць. Я веру, што ўсе праблемы з часам вырашым паспяхова.

* * *

Самым вялікім поспехам школы з'яўлецца яе развіццё. На сённяшні дзень тут восемдзесят вучняў, з якімі працуе аж 38 настаўнікаў (з ліку якіх 12 на поўным штаце).

— На пачатку быў плач, пот і нервы, — успамінае Луцыя Немірові, заснавальніца і галоўная ініцыятарка школы. — Каб школа ўзнікла, патрэбныя былі вучні. Цяпер, калі ад трох гадоў няма праблем з арганізацыяй класаў, думаем пра гімназію. Бог нам дазволіў, каб школа ўзнікла і развінулася. Без яго благаслаўлення ў нас не было б такога поспеху.

У Галіны Назарук і Бэаты Лянкевіч-Жукоўскай, настаўніц, якія працуюць ад пачатку, пытаем пра перамены:

— Усё змянілася, — кажуць. — Спачатку ў нас была адна зала і восем вучняў, кабінет дырэктара быў аддзелены шафай і занавескай. Цяпер у нас многа зал, цудоўныя дапаможнікі, многа дадатковых заняткаў і праектаў, — успамінаюць.

— Найбольш каштоўнае тое, што здзейсніліся нашыя мары, што школа існуе, — кажа спадарыня Галіна. — Мы прыйшлі сюды працаваць, бо яна была блізкая нашым сэрцам.

— Як сёння памятаю першы ўрок, калі мы спявалі малітву і што ў маіх вачах былі слёзы, — успамінае спадарыня Бэата. — Да той пары я не спазнала такога досведу, што магу разам са сваімі вучнямі ўстаць і памаліцца. Мы вельмі звязаныя з гэтай школай, прысвяцілі ёй многа часу, які прыходзілася дзяліць з працай у іншай школе. Нам прыемна, што пра нас ведаюць, што з боку грамадства ёсць большае зацікаўленне.

* * *

У школе аж 70 дзяцей вывучае беларускую мову (на ўкраінскую ходзіць 16, з гэтага ліку 6 дзяцей вывучае дзве мовы: украінскую і беларускую). На працягу пяці гадоў працавалі тут беларусісткі Тамара Бялькевіч, Альжбета Рудкоўская і Іаанна Марко, якая займаецца трэці год. Год таму ў школе перажывалі першыя поспехі ў прадметным конкурсе па беларускай мове.

— У гэтым годзе да конкурсу прыступіла 16 дзяцей, з якіх восем перайшло на ваяводскі этап, — адзначае спадарыня Іаанна, — сярод іх вучні чацвёртых класаў.

І што мяне найбольш цешыць, гэта дапамога бацькоў. Відаць што ў хаце яны разам працуюць з дзяцьмі, рашаюць практыкаванні, часам прыходзяць за парадай. Спадарыня Іаанна ўспамінае экскурсію ў Беларусь, якую арганізавалі напрыканцы мінулага года для ўсіх навучэнцаў. Па сённяшні дзень яе ўспамінаюць.

— Мы хочам, каб да нас вясной прыехалі вучні з Мінска, і каб зрабіць сустрэчу для ўсіх дзяцей з Беластока, якія вывучаюць родную мову. Бацькі ўжо паабяцалі ўзяць гасцей у свае хаты. Гэта даволі прыемна.

Як штогод тут рыхтуюцца да дэкламатарскага, тэатральнага і песеннага конкурсаў.

— А нядаўна былі мы на экскурсіі і наведалі тэлеканал Белсат, — дадае мая субяседніца.

Пытаю ці лёгка прабіцца з беларускай мовай, паколькі ў школе пануе інтэрнацыянальны дух, карацей, дбаюць, каб ніякая нацыянальнасць „не вылучалася”.

— Тое, што мы тут ёсць, відаць на кожным кроку. Хопіць паглядзець на граматы на калідоры, большасць жа на беларускай мове.

* * *

У час юбілею мелі асвяціць школьную часоўню. Адмоўнае рашэнне прыйшло тры дні да свята. У час сустрэчы прэзентаваліся ікона патронаў і элементы іканастаса паводле праекта д-р Тацяны Місіюк. Багаслужбы, як аказалася ў час гутаркі з вучнямі, найбольш любімыя „заняткі” ў школе. Праўда, дзеткам найбольш падабалася ўдзельнічаць на багаслужбах у саборы, калі замест урокаў цэлай школай ішлі ў царкву. Зараз гэтая традыцыя памянялася, у царкву ідзе адно выбраны клас або група прадстаўнікоў.

— Тыя дзеці, якім не пашанцуе апынуцца сярод прадстаўнікоў, вельмі перажываюць, — кажа Галіна Навумюк, маці двух вучняў. — Нашыя хлопцы, калі ім нельга ісці ў царкву са школай у дзень свята, хочуць ісці ў сваю прыхадскую царкву ў квартале. Пад іх уплывам, можна сказаць, памяняўся наш стыль жыцця. У кожную нядзельку мы цэлай сям'ёй ідзем на раннюю багаслужбу, бо хлопцы прыслугоўваюць. Гэта прыносіць нам вялікую прыемнасць. Мы бачым, што нядзеля — сапраўды свята. Хлопцы таксама моляцца ў хаце, кожны дзень раніцай і вечарам.

Апошняя звычка таксама вынесеная са школы.

— Для мяне самае важнае тут тое, што сын пачынае і канчае ўрокі малітвай, — кажа Магдаліна Валасюк, маці першакласніка Філіпа.

Патрэба існавання часоўні ў школе бясспрэчная. Як даведаліся мы неафіцыйна, праблемы звязаныя з адкрыццём часоўні ўзніклі з-за пратэсту іншай школы, якая разам працуе ў будынку і карыстаецца памяшканнем сталовай. Якраз там, у дзейснай яшчэ сталовай, планавалі арганізаваць праваслаўную часоўню.

* * *

Хоць усе гаварылі пра рост і развіццё школы, па сённяшні дзень няма тут асобнай залы для беларускай мовы, няма таксама падручнікаў, дапаможнікаў. Праўда, тут заўсёды могуць разлічваць на дапамогу Рэспублікі Беларусь і БГКТ, але гэта не вырашае дыдактычных патрэб. З гэтым пытаннем мы звярнуліся да Рэнаты Астапчук, якая з верасня г.г. выконвае абавязкі дырэктара школы.

— У нас такая спецыфіка, што не можам вылучаць адных перад другімі, хочам, каб усе адчувалі сябе роўнымі сярод роўных. Зараз думаем як арганізаваць гімназію, гэта сапраўды вялікі выклік.

Сродкамі, якія ідуць на вывучэнне моў і культуры нацыянальных меншасцей, карыстаюцца ўсе. А найбольш украінцы Падляшша, якія дзякуючы гэтаму могуць наладзіць асобныя заняткі ў класе для двух вучняў. Як паказала мастацкая праграма, гэты прынцып абавязвае таксама і ў культуры. Усе дзеці выступілі з песнямі братніх славянскіх народаў (была таксама адна па-англійску). Так ці інакш, музычная культура школы імпазантная, невыпадкова многа дзяцей гэтай школы выступае ў музычным спектаклі „Корчак”, які ставіцца на падмостках Падляшскай оперы і філармоніі.

— Для нас найважнейшы праваслаўны дух школы, — адзначае дырэктарка.

Добры дух школы хвалілі таксама бацькі.

— Спачатку я моцна перажывала, ці Філіп дасць рады ў школе, — кажа Магдаліна Валасюк, — бо ён пайшоў як шасцігадак у першы клас. Цяпер бачу, што ў яго многа энергіі, мабыць, так дзейнічае добры дух гэтай школы. А калі пра беларускую мову, гэта цудоўна, што ёсць такія заняткі, бо гэта наша родная мова.


9 770546 196000



# „Ашчаднасць — норма жыцця”

На мінулым тыдні ўся Беларусь даведалася пад якім дэвізам ёй загадана жыць увесь наступны год. Правадырскім указам 2013 год абвешчаны годам ашчаднасці і эканоміі. Зацягваць пасы тужэй не раз заклікалі і раней, але цяпер іх давядзецца запяць на цэлы год. Есці беларусам то сапраўды варта менем — асабліва бульбы. Тым больш, што некаторыя навукоўцы сцвярджаюць — гэты караняплод прытупляе мысленне і кемлівасць. Хоць думаць насельнікам беларускай зямлі асабліва не трэба — за іх паруліцца клапатлівая, сацыяльна арыентаваная дзяржава.

Тэматычныя гады абвяшчаліся і раней. Адзін з іх быў „годам зямлі”. У той год улады актыўна ачышчалі яе — маці-карміцельку — найперш ад дрэў. Раз год зямлі — значыць зямля мусіць быць чыстай. Абапал многіх дарог Гарадзеншчыны зараз сапраўдная пустыня. Затое значна выраслі пасяўныя „плашчадзя”, павялічыліся „машчнасця” і ўвогуле пяцігодку ёсць шанцы скончыць як у слаўныя савецкія часы ў чатыры гады. Праўда, калі гэтыя пяцігодкі пачынаюцца і калі канчаюцца ніхто не ведае — палітычна-гаспадарчая арыфметыка — навука няпростая. Галоўнае — вера ў светлую будучыню, а яна, як казалі раней, не за гарамі. Яна не за лясамі і не за марамі-акіянамі. Яна на ўсход за Магілёвам і Гомелем. Як пушчу канчаткова злучым з борам — то мёд да нас пальцецца морам. А газ ужо плыве бурлівай ракой. Зусім нядаўна прыязджаў у Беларусь кіраўнік „Газпрама” Аляксей Мілер. Але ён хіба не разумее нашай спецыфікі, бо пачаў заклікаць не ашчаджаць газ, а наадварот спажываць яго з патройнай энергіяй, пераабсталёўваць машыны, у тым ліку грузавыя, каб перавесці іх на газавае паліва. Расея — шчодрая душа. Шчодра дае і злёгку душыць.

Год, які мінае, быў дэкляраваны пад эгідай кнігі. Тут у нашай дзяржавы справы зноў не разыходзіліся са словам. То судзілі распаўсюдніка беларускіх кніг Алеся Яўдаху, то захоплівалі наклад незалежных выданняў пад грыфам часопіса „Архэ”, пачалі нават крымінальную справу на выдаўца Валера Булгакава (можа за прозвішча падазронае?), то пільныя цэнзары-інквізітары дапытвалі аўтараў краязнаўчага падручніка „Гродназнаўства” на прадмет замежнай дапамогі і незаконнага ўзбагачэння. З кніжкамі так заўсёды было, яшчэ з часу Скарыны Піцерскага. Дарага яны абыходзяцца ў кожным сэнсе. У наступным годзе варта, хіба, ашчаджаць і на кніжках.

А яшчэ быў, здаецца, у нашым найноўшым летапісе „год сям'і”. Тут цяжэй зразумець. Як гэта — адзін год суцэльная дабрыня да дзяцей і няўхільная вернасць жонцы, а ў год зямлі, прыкладам, можна ўжо забыцца пра нашчадкаў і гульнуць напоўніцу!? Слаба ўсё ж такі пакуль у нас працуюць ідэолагі — не ўсё дакладна даводзяць жыхарам.

Дык на чым усё ж яшчэ ашчаджаць грамадзянам сінявокай рэспублікі? Нібыта са снежня ў Мінску гарадскія ўлады пастанавілі перастаць выпускаць таннае пладова-ягаднае віно. Але тут паспяшаліся чыноўнікі, не ўлічылі менталітэту нашага чалавека. Не пярэйдзе ён на высакароднае кабернэ ці кіндзмаравулі. А вось кіраўнік дзяржавы заўважыў адразу гэты пралік, недарэчны эксперымент скасавалі. Таннае „бухло” можна будзе піць і надалей — сямейнаму бюджэту істотнае ашчаджанне і дзяржава не страціць свой прыбытак. Яшчэ мяркуецца эканоміць на электраэнергіі — хто мяркуе як раней спажываць яе шмат — будзе пасля перавышэння адпаведнай адзнакі плаціць адпаведна ўжо па дарагім тарыфе. Ну эканоміць на святле — гэта наша нацыянальная традыцыя. Успомніце хоць бы нашых пісьменнікаў і іх псеўданімы — Янка Лучына, Карусь Каганец... Так што тут вялікі пачын будзе падтрыманы без сумнення. Якія мудрыя ўсё ж былі саветы — „эканоміка павінна быць эканомнай” — усё проста, даходліва, зразумела. Лозунг „Ашчаднасць — норма нашага жыцця” увысь і наперад упэўненым крокам...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Pokłosie слоў

„Pokłosie” Уладыслава Пасікоўскага яшчэ не зусім разгасцявалася ў польскіх кінатэатрах, а ўжо выклікала эмоцыі, кранаючыя нават калектыўнай істэрыкі. Ну, можа яшчэ не калектыўнай, ды, здаецца, камусь залежыць на тым, каб разважную дыскусію аб польскіх прывідах замяніць вулічнай шарпанінай і паспалітай дракай. Паправўдзе фільм да гэтага часу агледзела каля 200 тысяч гледачоў, значыць, прапарцыянальна мінімальная частка палякаў, але гэта яны надаюць тон гэтай чарговай польска-польскай сварцы. Пішу сварцы, бо ж у гэтым шызафрэнічным раздваенні, якое ад вякоў мучыць Рэч Паспалітую — а то пагружаную ў глыбіні ўпадку, а то пабуджаную надзеяй імперскага ўваскрашэння — у якой да сёння раздзіранне адзення служыць агрументам, грубы мардабой рацыяй, вета раз'юшаных істцоў стаўленнем закону, аб публічным і сумленным дыскурсе не можа быць гаворкі. Ды фільм гэта толькі фільм. Калі Пасікоўскі мінуўся з праўдай, дык прынамсі не гістарычнай. Можа што толькі той, апісанай паэтыкай патрыятызму Бэлзы, які стыгматызуе палякаў ад XIX ст. „krwią i blizną”, бездзяржаўным геройствам у імя энігматычнага духу народа, пафасам над законам, словам над пачынам. І пэўна з-за таго той скандал. Фільм Пасікоўскага дэміфалагізуе вось паэтычную польскасць, польскасць таемную. Ён яе агольвае да касцянога мозгу негеройскай чалавечнасці, якая рашаецца на высакародпасць і альтруізм у экстрэмальных сітуацыях, ды ў такіх самых акалічнасцях паказвае сваю другую, заслоненую натуру.

Каб не дзьмуць парожне ў іерыхонскую трубу, прывяду адно здарэнне, якога я быў сведкам і ўдзельнікам. Было гэта ў час маёй пабыўкі ў ЗША. Пачаў я працаваць з групай палякаў, якраз так склалася, што ў большасці паходзячых з ваколіц Ядвабнага, Радзілава, Граева. Кожны з іх спазнаў шмат прыніжэнняў, якіх не шкадуе Амерыка нелегальным эмігрантам. Усе былі згодныя, што найбольш крыўд спазналі яны ад здаўна дзеючых там палякаў. Аднак найбольш прэтэнзій мелі яны да амерыканскіх яўрэяў. Невядома чаму абвінавачвалі іх у кепскім жыцці ў Польшчы і яшчэ горшым у Амерыцы. У час ланча адзін Зэнэк з Граева, гадоў каля пяцідзесяці, пачаў вось такі маналог: „Калі б я жыў у час нямецкай акупацыі і даведаўся, што мой сусед іх хавае, я асабіста данёс бы ў гестапа. І яшчэ памог бы іх вытаўчы. Бо гэта не людзі, ані нават не звяры! Іх трэба выдушыць як вашыўё, да аднаго!”. Па тварах маіх новых калег я бачыў, што трактуюць яны словы Зэнка як жарт. Дурны, бо дурны, ды ўсё-такі жарт. І гэта мяне найбольш жахнула.

Жахлівай для мяне была таксама інфармацыя, што Ярраслаў Качынскі рашуча адмовіўся паглядзець фільм Пасікоўскага, сцвярджаючы, што ён няслушны, бо непатрыятычны. Такая пазіцыя тым больш жахлівая, калі прыгадаць ягоныя словы аб „mordzie smoleńskim”. Не сумняваюся, што старшыня ПіС меў поўную свядомасць таго, што словы выказаныя публічна становяцца рэальнымі сведкамі неіснуючых фактаў. Колькі прыхільнікаў ПіС верыць сёння ў „mord smoleński”? А колькі стане перад фільмам „Pokłosie”? І ўрэшце колькі з тых, хто адважыцца крадком паглядзець гэты фільм, скажа, што патрыятызм гэта не выкапень трацічнага перыяду, які паказваюць у шкляной вітрыне, а жывая тканка, якая аднолькава паддаецца карцынаматозу як чалавечы мозг? І незалежна ад таго, ці гэты мозг малады, ці стары.

Калі малады публіцыст Яцак Карноўскі назваў абвінаваўчы фільм творам спрэчным „заадно як у гістарычнай праўдзе, так і ў дбайнасці аб патрыятычнае выхаванне моладзі”, я зразумеў, што Пасікоўскі кажа ў сваім фільме аб гэтым самым, аб чым гаварыў Карноўскі. Толькі неяк інакш. Так як у старым добрым анекдоце аб двух глухіх совах. Сядзяць, вось, тыя совы на галіне і маўчаць, аж на канец адна кажа адной: „Маю цябе ў азадку!”. Ды нічога. Сядзяць далей на галіне і маўчаць. Раптам азываецца другая сава: „А я маю цябе ў азадку”.

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Стол без адной нагі



Дом усходняй Польшчы ў Брусэлі ў канцы лістапада сарганізаваў першыя Дні Усходняга партнёрства: „УП як культурны праект”. Польскі дом з'яўляецца супольным прадстаўніцтвам у Еўрасаюзе пяці ваяводстваў усходняй Польшчы. Іхнія прадстаўнікі кіруюць яго працамі заменна. Цяпер — Падкарпацкага, а ад студзеня — Падляшскага. У рамках Дзён УП цэлы адзін дзень (агулам было два) прысвечаны быў беларускай тэматыцы (г.зв. беларускі круглы стол) пад лозунгам „Беларусь і Еўропа: культура без межаў”. Другі быў датычны прадстаўлення рэкамендацый з першага Кангрэса культуры УП у Любліне (яго ход абшырна апісвалі мы восенню мінулага года). Ідэяй усяго мерапрыемства было „ініцыяванне шырокамаштабнай дыскусіі на тэму культурнага маштабу УП”. Задумшчыкі тлумачылі: „Культура, якая прамаўляе на паўсюдна зразумелай мове, з'яўляецца ідэальным фактарам паскарэння палітычных працэсаў, эканамічных і грамадскіх рэформ у краінах Усходняй Еўропы і Паўнёвага Каўказа. Папраўляе гэта ажыццяўлянне партнёрскіх адносін паміж ЕС і краінамі ахопленымі ініцыятывай УП (Арменіяй, Азербайджанам, Беларуссю, Грузіяй, Малдовай і Украінай — М. Х.), таму што іхняя культурная спадчына з'яўляецца важным элементам еўрапейскай спадчыны, часткай якой мы ўсе з'яўляемся.

За беларускім круглым сталом засялі заснавальнік альманаха беларускага сучаснага мастацтва „pARTizan” Артур Клінаў, філосаф і пісьменнік Валянцін Акудовіч, музыка Зміцер Вайцюшкевіч, дакументаліст Віктар Аслюк і філосаф Алесь Анціпенка. У Брусэлі быў таксама прысутны Андрэй Хадановіч, паэт і старшыня беларускага ПЭН-Цэнтра. Ад нашага рэгіёна ў канферэнцыі прынялі ўдзел чыноўнікі: член управы Падляшша Цэзары Цеслюкоўскі і дырэктар дэпартамента супрацоўніцтва з замежжам і прамоцыі Маршалкоўскай управы Магдалена Лыжніцкая-Санчанка. Мадэратарам двухдзённай сустрэчы быў Кшыштаф Чыжэўскі, старшыня Рады Кангрэса культуры УП, і заадно шэф краснагрудскага Міжнароднага цэнтра дыялогу і сейненскага Асяродка „Пагранічча”. На думку Артура Клінава, у рамках культурных дзеянняў УП патрэбнае стварэнне цэнтра перакладаў беларускай літаратуры.

Адзначыў:

— Сёння палітычная ці эканамічная інтэграцыя Беларусі немагчымая, але культурная — так.

Магдалена Лыжніцкая-Санчанка пасля вяртання з Брусэля расказвала:

— Беларусам у час абрадаў круглага стала вельмі залежала, каб беларускую мову прамаўлялі навонкі. Важным для іх таксама з'яўляецца тое, каб маладыя людзі, якія займаюцца культурай, маглі праводзіць стажыроўкі ў Заходняй Еўропе, у тым ліку мастакі, каб больш свядома маглі ўспрымаць мастацтва ды каб атрымаў падтрымку сайт, прысвечаны незалежнай культуры Беларусі. Адзначалася, што не хапае ў Беларусі інфраструктуры, якая гарантавала б магчымасць паказання незалежнага мастацтва, бо — як казалі — мінская галерэя „Ў” гэта замала. Дзякавалі за тое, што ёсць Радыё Рацыя і тэлеканал Белсат, бо дзякуючы ім могуць паказацца.

У час брусельскай канферэнцыі Кшыштаф Чыжэўскі прадбачыў сустрэчу з прэзідэнтам Браніславам Камароўскім і перадачу яму ліста, у якім ад імя ўдзельнікаў Кангрэса культуры УП прасіць маем дапамогі ў наладжанні кантактаў польскіх няўрадавых арганізацый з іхнімі калегамі з Беларусі (фармальна ў прынцыпе іх няма).

Прыкрае і незразумелае тое, што пры арганізацыі канферэнцыі ў Брусэлі аб культурным маштабе УП абмінулі натуральную сувязь з'ядпанай Еўропы і Беларусі — прадстаўнікоў беларускай меншасці ў Польшчы, тутэйшых культурных эліты, няўрадавыя арганізацыі. Мабыць, пры падляшскім старшыняванні ў брусельскім Польскім доме гэтая відавочная недавочнасць будзе прыкмечана.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**


«Рэха пушчы» з акампаніятарам Мікалаем Мяжэнным

# 30 гадоў з беларускай песняй

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**Хаця калектыў «Рэха пушчы» Гайнаўскага дома культуры сваю ўласную назву атрымаў толькі пяць гадоў таму, дзейнічае ўжо 30 гадоў. Узнік ён у 1982 годзе пры Гайнаўскім белліцэі, а інцыятарам яго заснавання быў гарадскі гурток Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Калі калектыў стаў праводзіць рэпетыцыі ў доме культуры, атрымаў назву Беларускі калектыў песні Гайнаўскага дома культуры. У яго рэпертуары былі перш за ўсё беларускія песні, але спевакі патрапілі заспяваць на польскай, расійскай і ўкраінскай мовах. Выступалі таксама з мясцовымі песнямі, запісанымі ад жыхароў Гайнаўшчыны. Зараз цяжка высветліць, калі гайнаўскі хор, ці калектыў, як яго зноў сталі называць, згубіў у афіцыйнай назве слова „беларускі", але гэта не адбылося апошнім часам. Аднак лічыцца ён беларускім перш за ўсё з-за рэпертуару, які выконвае. Мяняліся музычныя кіраўнікі, але гайнаўскі хор не губляў высокага мастацкага ўзроўню. Часта перамагаў на фестывалі «Беларуская песня», дзе была добрая нагода параўнаць яго музычныя магчымасці з узроўнем іншых беларускіх калектываў. Гайнаўскі хор часта выступаў на беларускіх фэстах і шматлікіх мерапрыемствах. Хаця так, як і іншыя нашыя гурты, гайнаўскі калектыў змагаўся з цяжкасцямі, то ўдавалася яму пераадолець складанасці, прыцягнуць малодшых спевакоў і павышаць мастацкі ўзровень.**

— Калі мы стваралі беларускі хор, мелі намер узмоцніць нацыянальную свядомасць нашых беларусаў, стрымліваць асіміляцыйныя працэсы. Мы хацелі выступаць з беларускімі песнямі, каб людзі з Гайнаўкі і наваколля не саромеліся сваёй мовы. Пачыналі мы выступаць з 15 спевакамі, а пазней бывала, што і па 40 чалавек спявала ў хоры. Мы ўдала расслаўлялі Гайнаўку і наш рэгіён не толькі ў нашым ваяводстве і Польшчы, але і па-за межамі нашай краіны — у Эстоніі, Літве, Латвіі, Чэхіі і Славакіі. Найбольш за мяжой, бо ажно 21 раз, выступілі мы ў Беларусі, — заявіў з гордасцю адзін са стваральнікаў калектыву, былы настаўнік Аляксей Харкевіч, які спявае па сённяшні дзень.

Калі калектыў песні ГДК «Рэха пушчы» 24 лістапада святкаваў юбілей 30-годдзя сваёй дзейнасці, выступіў стройна пад музычным кіраўніцтвам Аліны Негярэвіч і пад акампанемент акардэаніста Міколы Мяжэннага. Прыгожа прагучэлі і песні спецыяльна падрыхтаваныя пад юбілейнае мерапрыемства, і творы з ранейшага рэпертуару. На юбілейнай урачыстасці, прымеркаванай да запустаў перад Філіпавым постам, у канцэртнай зале ГДК сабралася многа жыхароў Гайнаўкі і наваколля. Прыбылі прадстаўнікі ад іншых беларускіх калектываў, з якімі гайнаўскі хор сябруе. Павіншаваць юбіляраў прыйшлі бурмістр Гайнаўкі Ежы Сірак, гайнаўскі староста Уладзімір Пятрочук, войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч, войт Нарваўскай гміны Андрэй Плясковіч, мясцовыя самаўрадаўцы, ваяводскія радныя Мікола Яноўскі з Пераходаў, Ян Сычэўскі з Беластока, заадно старшыня БГКТ, і Генрык Лукашэвіч з Гайнаўкі, благачынны Гайнаўскай акругі, мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч і прадстаўнікі культурных устаноў. Віншаванні ад беларускіх дыпламатаў зачытаў Эдуард Швайко — дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве. Многія госці павіншавалі юбіляраў і ўручылі ім ганаровыя граматы, кветкі і падарункі. Прамоўцы не шкадавалі спевакам цёплых слоў.

— Падбіраючы рэпертуар я стараюся, каб ён падабаўся публіцы і падыходзіў спевакам. Паколькі мы — беларускі хор, выдатную большасць нашага рэпертуару складаюць беларускія песні, хаця мы выконваем таксама творы на польскай мове, калі запрашаюць нас выступаць перад польскай публікай. У рэпертуары маем песні на расійскай і ўкраінскай мовах. Спяваем мясцовыя песні, апрацаваныя на 4 галасы. Я складаю музыку да песень на словы беларускіх паэтаў, напрыклад, Янкі Купалы. Сёння вы пачуеце песню «Белавежа» з маёй музыкай і на словы Віктара Шведа, — сказала музычны кіраўнік гайнаўскага калектыву Аліна Негярэвіч, якая вышэйшую музычную адукацыю атрымала на Універсітэце ў Любліне, а зараз працуе ў Дзяржаўнай музычнай школе ў Бельску-Падляшскім і займаецца бельскімі «Курантамі» і «Згоднымі макамі» з Райска.

— Беларускі хор Гайнаўскага дома культуры выступаў на высокім мастацкім узроўні. Вялікі яго росквіт выпаў на перыяд, калі яго музычным кіраўніком была Анна Стрыха з Гродна. Тады гайнаўскі хор спяваў крыху ў акадэмічнай манеры. Мне хочацца звярнуць асаблівую ўвагу на Міколу Сідарука з Ягуштова, які шмат гадоў стаяў на чале капэлы і састаўляў музычны акампанемент, з вялікім адчуваннем музыкі, а нават з характэрнай яму віртуознасцю, хаця і цяпер Мікола Мяжэнны іграе на гузікавым акардэоне па-майстэрску. Цешыць таксама, што ў рэпертуары гайнаўскага хору былі мясцовыя песні запісаныя ад „Тыневічанак", у Дабрывадзе, ці ў Арэшкаве, — сказаў Сцяпан Копа, шматгадовы працаўнік Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку, які апекаваўся беларускімі калектывамі.

Першым музычным кіраўніком гайнаўскага калектыву быў Аляксандр Лукашук з Гайнаўкі, які займаўся з ім каля пяці гадоў. Пасля гады два з калектывам працаваў Дзмітры Ціханюк з Гайнаўкі, а паўгода — Міхал Артышэвіч з Кляшчэляў. Ажно 15 гадоў павышала мастацкі ўзровень калектыву Анна Стрыха з Гродна. Пасля займацца з калектывам паспрабавалі Бернард Беняконскі, Аліна Кос, затым яшчэ на паўгода вярнулася Анна Стрыха, якую ў чэрвені 2004 года замяніла Аліна Негярэвіч з Бельска-Падляшскага.

— Калі стварыўся наш калектыў, вельмі весела было ў нашай кампаніі і вельмі хацелася спяваць і выступаць. Усе 30 гадоў трымала нас у хоры любоў да беларускай песні і прывязанасць да роднай мовы. Мы зжыліся з сабой і прывыклі да рэпетыцый і выездаў з канцэртамі. Прыблізна ад пачатку, апрача Аляксея Харкевіча і нас дзвюх, спяваюць у хоры таксама Вася Андраюк і Вася Башун, — сказалі Марыя Сапяжынская і Зінаіда Гаўрылюк, таксама члены царкоўнага хору, так як і многія іншыя спевакі «Рэха пушчы». Амаль ад пачатку з хорам выступае Міхал Тарасюк з Чыжоў, які заяўляе, што мае намер спяваць у ім, покі здароўе будзе дазваляць.

Першая арганізацыйная сустрэча ў справе заснавання калектыву песні адбылася 11 чэрвеня 1982 года ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Прынялі ў ёй удзел першы яго музычны кіраўнік Аляксандр Лукашук, дырэктар белліцэя Аляксандр Іванюк, дырэктар ГДК Мікола Бушко, Сяргей Харкевіч, Аляксей Харкевіч, Уладзімір Суліма, Сяргей Сэвэрын, Ян Якімюк, Уладзімір Мінько, Васіль Андраюк, Марыя Сапяжынская, Вольга Блізнюк, Марыя Данілецкая, Аляксандра Андрасюк, Галіна Панасюк і Мікола Семянюк. Ажно да 15 спатканняў рэпетыцыі адбываліся ў Гайнаўскім белліцэі, але калі колькасць членаў калектыву настолькі пабольшала, што складана было збірацца і спяваць у класным кабінеце, ад верасня 1982 года рэпетыцыі сталі праводзіцца ў Гайнаўскім доме культуры.

— З сённяшняга рэпертуару вельмі падабаецца нам песня «Белавежа», бо там мелодыя прыгожая і словы цікавыя, — заявілі спадарыні Марыя і Зінаіда.

У час юбілейнага канцэрта падмену для гайнаўскіх спевакоў давалі «Зараніца» з Крынак, вучні са Студыі песні і «Перапёлка» (з беларускімі танцамі) з ГДК. Запрэзентаваліся госці з Пружан (на жаль, не даехаў запрошаны Хор народнай песні «Вербніца» з Пружан, бо толькі дзве асобы паспелі атрымаць візы).

У дзевяностых гадах гайнаўскі хор атрымаў калектыўную адзнаку «Заслужаны Беласточчыне» і Ганаровы дыплом Міністра культуры і мастацтва. Цяпер Міністр культуры і нацыянальнай спадчыны Багдан Здраеўскі ўзнагародзіў гайнаўскі калектыў сярэбраным медалём Заслужаны для культуры «Gloria Artis». Маршалак Падляшскага ваяводства прысвоіў гайнаўскаму хору Ганаровую адзнаку Падляшскага ваяводства. Грашовыя ўзнагароды і ганаровыя граматы спевакі з Гайнаўкі атрымалі ад мясцовых самаўрадаў. Напрыклад, бурмістр Гайнаўкі Ежы Сірак уручыў калектыву, між іншым, грашовую ўзнагароду ў памеры 5 тысяч злотых, прызначаную Радай горада.

— Я не ўяўляю сабе жыцця без песні і таму спяваю ў нашым калектыве і ў царкоўным хоры, — заявіла Зінаіда Масайла, якая пачала выступаць з калектывам пазней, так як і Уладзімір Каролька. Спыніў ён удзельніцтва ў калектыве па асабістых прычынах, але 5 гадоў таму вярнуўся і зараз нецярпліва чакае чацвярга, калі адбываюцца рэпетыцыі хору.

На працягу 30 гадоў дзейнасці калектыў толькі ў Гайнаўцы выступіў ажно 169 разоў, а ў цэлым даў ажно 516 канцэртаў. Паводле ўласных падлікаў, песні ў выкананні гайнаўскага хору слухала каля 500 тысяч асоб. У калектыве займалася больш за 100 чалавек. Старэйшых асоб з часам замянялі малодшыя, сярод якіх, між іншым, апынулася 15 гадоў таму Беата Ляўчук, былая працаўніца белмузея. Зараз да калектыву належыць 25 асоб, у тым ліку 10 мужчын. У час юбілейнага мерапрыемства гайнаўскія спевакі выступілі ў сваіх традыцыйных уборах і ў касцюмах выкананых 5 гадоў таму. Ад міністра культуры і нацыянальнай спадчыны РП малодшыя спевакі атрымалі дыпломы, а старэйшыя — ганаровыя значкі «Заслужаны для польскай культуры».

— Павінны быць значкі «Заслужаны для беларускай культуры», — пракаментаваў у час уручэння ўзнагарод мужчына з публікі.

У канцы мерапрыемства на тварах спевакоў калектыву «Рэха пушчы» было відаць вялікую радасць. Гаварылі яны, што маюць намер як мага найдаўжэй выступаць з беларускімі песнямі, прыдбаць цікавы рэпертуар і чакаць маладых спевакоў.

## Зварот Краязнаўчага таварыства «Коматава»

У пачатку верасня нашу рэдакцыю наведаў Васіль Сямко — старшыня Краязнаўчага таварыства «Коматава». Мэта гэтай грамадскай арганізацыі — вывучэнне гісторыі Коматаўскага прыхода, што ў Гродзенскай вобласці, і ўзвядзенне на сярэднявечным могільніку мемарыяльнай капліцы ў гонар продкаў. Менавіта на гэтым могільніку ў 1509 г. была пабудавана першая царква Святога Спаса, фундатарам якой быў князь Вялікага Княства Літоўскага і кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт І. Зараз таварыствам вядуцца архіўныя пошукі прывілеі на будаўніцтва Спаскай царквы.

У гісторыі прыхода было многа выдатных людзей, памяці якіх будзе прысвечана мемарыяльная капліца. Сябрам таварыства хочацца, каб іх унукі і праўнукі памяталі аб слаўных продках, якія жылі і дзейнічалі тут, і ўключыліся ў вывучэнне гісторыі Коматаўскага прыхода. Шукаюцца матэрыялы, між іншым, пра коматаўскіх свяшчэннікаў Аўгустына Тарановіча (бельскага благачыннага), Сімяона Будзіловіча (настаяцеля прыхода ў Такарах) і яго сына Антона Будзіловіча (прафесара Варшаўскага ўніверсітэта), Давіда Якабсона (служыў настаяцелем у Сасінах, Самагрудзе і Саколцы), Іосіфа Амельяновіча (ураджэнца Мельнікі).

У гады Другой сусветнай вайны коматаўскія прахаджане змагаліся на ўсіх франтах. Напрыклад, Ігар Калішэвіч у 1939 г. абараняў Варшаву, а пазней у радах арміі генерала Андэрса ўдзельнічаў у баях пад Монтэ-Касіна (пасля вайны застаўся ў Англіі і там памёр). У Італіі ваявалі таксама Мікалай Шурпа, Іван Казёл (абодва з вёскі Саволеўка), Герасім Галоўка (з в. Плавы). У Чырвоную Армію было прызвана 273 прыхаджан, з ліку якіх 156 загінулі смерцю герояў у барацьбе з фашыстамі. А на акупаванай тэрыторыі загінула 78 удзельнікаў падполля.

«Наша агульная гісторыя славянскіх народаў, — сказаў нам старшыня Краязнаўчага таварыства «Коматава» Васіль Сямко, — заклікае грамадзян Еўрасаюза і СНД асабіста прыняць удзел у дабрачыннай акцыі аказання пасільнай фінансавай дапамогі для стварэння мемарыялу памяці продкаў».

Па яго словах, мемарыял будзе пабудаваны ў тым месцы, дзе была ўзведзена першая царква і былі перазахаваны ў 2011 годзе 302 астанкі цел са старажытнага могільніка ў сувязі з будовай Гродзенскай ГЭС. Стварэнне мемарыяла плануецца на 2014 год і мае быць прымеркаванае да 505-годдзя заснавання Коматаўскага прыхода, 170-годдзя закладкі фундаментаў пад другую царкву і 70-годдзя выратавання жыхароў Коматава ад расстрэлу фашыстамі.

Паштовы адрас: Краязнаўчае таварыства «Коматава», 230001 г. Гродна, вул. Матросава, 13

Электронная пошта старшыні Васіля Сямко — e-mail: vv7ko@tut.by



„Незабудкі" з Нурца-Станцы

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Сямятыцкае свята царкоўных песнапенняў

*Немагчыма было знайсці нейкае свабоднае месца ў немалой сямятыцкай Уваскрэсенскай царкве суботнім, лістападавым вечарам. Якраз там праводзілася другая частка канцэртаў у рамках IX Сямятыцкага агляду рэлігійнай і паралітургічнай песні. Трохдзённае музычнае мерапрыемства пачалося ў пятніцу, 16 лістапада, прыцягваючы шматлікіх паклоннікаў царкоўнага спеву, у асноўным з Сямятыч і наваколля.*

Сярод іх можна было заўважыць не толькі святароў, бабуль і дзядуляў, але таксама многа моладзі школьнага ўзросту. Усе з нецярпеннем чакалі ўрачыстага адкрыцця канцэртнай вечарыны. Першым голас узяў настаяцель храма а. Васіль Літвінюк. Адзначыў ён, што незвычайны фестываль адбываецца па бласлаўленні мітрапаліта Савы. Усім выканаўцам пажадаў Божага бласлаўлення, цярплівасці, стойкасці і поспеху. Словы асаблівай падзякі скіраваў да кіраўніка Дэканальнага інстытута праваслаўнай культуры ў Сямятычах а. Славаміра Хвойкі. Менавіта а. Славамір з'яўляецца „целам і душою" сямятыцкага агляду. Дзякуючы яго шматгадоваму вопыту, арганізацыйнаму таленту, а перш за ўсё асабліваму падыходу да кожнага чалавека гэтае мерапрыемства з году ў год паспяхова развіваецца і распаўсюджваецца. Айцец Славамір прызнаўся, што сямятыцкі рэлігійны агляд вядомы ўжо не толькі ў павеце і Падляшскім ваяводстве, але і па-за яго межамі. Паводле яго меркавання, поспех не быў бы магчымы без падтрымкі добразычлівых людзей. Сёлетні выпуск фестывалю дапамагалі арганізаваць, між іншым, Управа горада Сямятычы, Сямятыцкі асяродак культуры і ўсе мясцовыя праваслаўныя прыходы. Вельмі цешыць, што ў акцыю актыўна ўключылася моладзь сярэдніх школ Сямятыч і Чартаева. Відаць, што справа падтрымкі традыцыйнай спадчыны праваслаўнай меншасці блізкая сэрцу многіх жыхароў Сямятыцкай зямлі незалежна ад узросту і, мабыць, веравызнання.

У дзевятым аглядзе праваслаўных песнапенняў прыняло ўдзел 25 царкоўных і свецкіх калектываў. Тры ўрачыстыя канцэрты праходзілі ў надзвычай прыгожых сямятыцкіх Петрапаўлаўскай і Уваскрэсенскай цэрквах. Другі з трох канцэртных блокаў распачаўся малітвай „Богородице Дево" знаменнага распеву ў выкананні маладзёжнага хору Уваскрэсенскай царквы — гаспадара вечара. Затым запрэзентаваліся жанчыны з нурэцкага калектыву „Незабудкі". Яны захапілі слухачоў спевам „ад шчырага сэрца" і рэдкім падборам колішніх вясковых песень. Надзея Карчэўская, заснавальніца і добры дух калектыву выявіла, што адзін з прэзентаваных імі твораў — пра прападобнага Андрэя — вельмі стары і ўжо даўно не выконваўся ў іхняй царкве:

— Магчыма, што ніколі там яго не спявалі. Мяне зацікавіла, што ў царкве адбываюцца спецыяльныя набажэнствы і чытанні, прысвечаныя прападобнаму Андрэю, але песень пра яго не спяваюць. Таму я рашыла падрыхтаваць той твор. Ён запісаны ад адной старушкі з нашай вёскі. Жанчыне ўжо хадзіць цяжка, рукі трасуцца, то я ёй ягад назбіраю ці ў чым-небудзь дапамагу. Яна вельмі многа песен ведае, якія мне пераказвае, а я стараюся ўсё тое зберагчы. Я вельмі люблю спяваць, — гаворыць спадарыня Надзея. — За песнямі не ведаю дзе пайшла б. Дзе я не бываю, што я не пачую, усё запісваю. У цяжкай хвіліне, калі сляза пальецца, найлепшым маім суцяшэннем з'яўляецца песня. Яна ад не адной хваробы мяне выбавіла, нават дактары гэта адкрыта прызнавалі. Ну і, канешне, шчырая вера і Божая Сіла, якая суправаджае мяне праз не заўсёды лёгкае жыццё. Праўда такая: хто Бога не прызнае, вельмі памыляецца. У мяне ў хаце сшыткі з даўнішнімі песнямі, прывезенымі маёй сястрой аж з Урала. Адна з іх гаворыць пра канец свету. У ёй Хрыстос кажа сваім вучням: „Не ваше дело сроки узнавать, придёт антихрист всё будете знать". Тую песню пакойнай ужо сястры рыхтую на чарговы выпуск сямятыцкага агляду.

Нурэцкія жанчыны вылучаліся таксама незвычайнай вопраткай. Бела-сіня-чорныя блузкі спраектавала і ўласнаручна пашыла калектыву „Незабудкі" не хто іншы як сама спадарыня Надзея.

Упершыню перад сямятыцкай публікай паявіўся крынскі дуэт „Зараніца". Спеў дзяўчат хутка здабыў шматлікіх прыхільнікаў. Пасля канцэрта іх запрасілі да ўдзелу ў чарговым, юбілейным выпуску агляду.

Непадалёкую Мельніцкую зямлю годна прадставіў калектыў „Крыніца" з Радзівілаўкі. Рэдкую інтэрпрэтацыю літургічных спеваў прадставіў украінскі калектыў „Джэрэло". Маладыя беластачане ва ўкраінскіх рубашках белым голасам праспявалі, між іншым, малітву „Свете тихий" і „Во Царствии Твоем" валынскага распеву. У бела-чырвона-залатой вопратцы з Беларусі перад сабранымі ва Уваскрэсенскай царкве заззяла „Навіна" з Машчоны-Каралеўскай. Калектыў з 2009 года рэгулярна прымае ўдзел у аглядзе, старанна рыхтуючыся да кожнага выступлення. Самыя лепшыя мужчынскія галасы можна было пачуць у спеве хору Мікалаеўскага прыхода ў Драгічыне. Гармонія і чысціня гуку, апрацаваная рукой дырыжора Рыгора Клімюка, здабылі прызнанне слухачоў. Мабыць, многія спецыяльна прыйшлі паслухаць маладых драгічынскіх пеўчых, паколькі выступаюць яны тут кожны год з першага выпуску сямятыцкага агляду.

Голасам старажытнага Бельска-Падляшскага быў вялікі хор тамашняга Уваскрэсенскага прыхода. Састаў гурту пеўчых выдатна адлюстроўваў агромнейшую сувязь жыхароў Бельска з Праваслаўнай царквой. Сваёй любоўю да духоўных песнапенняў дзяліліся і дзеткі, і дарослыя. Менавіта дзіцячыя сольныя партыі былі незабыўнай адметнасцю выступлення бяльшчан. Канцэртную вечарыну паспяхова завяршыла гайнаўскае „Воскликновение". Хор, які ведаюць і за рубяжом краіны, яшчэ раз паказаўся з самага лепшага боку, уводзячы слухачоў у поўнае захапленне. Цяжка было паверыць, што ўладальніцамі спелых, чыстых і моцных сапрана з'яўляюцца дзеткі і малодыя дзяўчаты гайнаўскіх школ.

Пасля канцэрта ўсіх выканаўцаў чакала багатае застолле ў Сямятыцкім доме культуры. Была нагода да бліжэйшага ўзаемнага знаёмства з гаспадарамі і ўдзельнікамі агляду, а таксама да супольнага спеву народных песень пад кіраўніцтвам мужчынскіх галасоў з Драгічына.




# Заступнік
## ранняга папярэджання

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**Беласток гэта імпазанта развіваючыйся горад, але мае ён праблему з адкрыццём на культурную разнастайнасць. Недастаткова яе праяўляе. Мае скарб, а быццам бы яго сароміцца. Гэта павінем быць гонар гэтага горада, які прыцягвае таксама да яго па іншых розных прыкметах, — так сказала ў час сустрэчы з беластачанамі Заступніца грамадзянскіх правоў (ЗГП, омбудсмен) прафесар Ірэна Ліповіч. — Цяпер не дастаткова талерантнасці — патрэбнае адабрэнне.**

На працягу двух дзён у падляшскай сталіцы адбыўся шэраг сустрэч, у тым ліку са студэнтамі юрыдычнага факультэта Універсітэта ў Беластоку, прадстаўнікамі сілавых структур і няўрадавымі арганізацыямі. Без аб'явы наведала таксама асяродак для іншаземцаў падляшскай Памежнай аховы, ну і, вядома, прымала індывідуальных наведвальнікаў.

Пры канцы візіту (28-29 лістапада) спадарыня омбудсмен падвяла яго ў час кароткай прэс-канферэнцыі:

— З жыхарамі я размаўляла аб тым, што іх найбольш турбуе: аб праблеме беспрацоўя, прытым ва ўсім ваяводстве, а таксама аб праблеме з пабудовай сацыяльнага жылля. Сітуацыя, у якой чакае яго дзве з паловай тысячы асоб, а ў год здаецца ў карыстанне толькі пяцьсот кватэр, павялічвае грамадскія напружанні. Важнай таксама з'яўляецца праблема кампенсацый за ўчасткі пад новыя інвестыцыі.

Спасылаючыся на шматкультурнасць Беластока і адбываючыеся ў ім ды ў рэгіёне акты на нацыяналістычнай, расісцкай і ксенафобнай глебе (выпісванне лозунгаў, падпал кватэр, пабоі і да г.п.) сказала журналістам:

— Ніхто сюды не прыедзе, ніхто не будзе інвеставаць у рэгіёне, які не ёсць прыязны, адкрыты і прагаяне прыехаўшых. З некаторых інцыдэнтаў, якія тут адбываюцца, мушу тлумачыцца на міжнародным форуме і за кожную падпаленую кватэру і кожнага чалавека збітага мачэтай Польшча будзе бязлітасна папракацца светам.

На яе думку, выразнай з'яўляецца патрэба абучэння пракурораў і суддзяў, каб прыкмячалі, што такія інцыдэнты не маюць прыкмет нізкай грамадскай шкоднасці і не прымалі вырашэнняў неадпаведных да дзеянняў, здзейсненых са злым намерам:

— Неабходным з'яўляюцца таксама абучэнні з культурнай разнастайнасці для працаўнікоў публічнай адміністрацыі і ўсяляких службаў. Магічнае Падляшша з тою разнастайнасцю павінна быць прыкладам для ўсяе Польшчы. Тут не павінна быць так, што экскурсіі прыязджаюць у Белавежскую пушчу і пакідаюць рэгіён. Тут павінен быць адукацыйны цэнтр, які паказвае пры нагодзе мультыкультурнасць, які таксама стварыў бы новыя месцы працы і паказаў жыхарам усёй Польшчы чалавечы бок гэтага рэгіёна. Як мне паказваў гайнаўскі староста, часта ёсць так, што абязлюджванне тутэйшых паветаў, страта месцаў працы з-за пашырэння нацыянальнага парку на рэшту Белавежскай пушчы не прыкмячаецца грамадскай увагай. Рэгіён страчвае сваё культурнае багацце ў гэтым фрагменце. Я цешылася б такім цэнтрам культурнай разнастайнасці для ўсяе краіны. Маю ўражанне, што ад гэтага капіталу, якім ёсць тут разнастайнасць, не здабываецца адсоткаў.

Раней у час сустрэчы з жыхарамі, на якую ў канферэнц-залу Падляшскай ваяводскай управы прыбыло пару дзесяткаў асоб, у тым ліку шматлікае прадстаўніцтва чачэнцаў прабываючых у Беластоку, прафесар Ліповіч сказала:

— Я хацела, каб дайшло да гэтай сустрэчы, бо трэба задумацца, што можна зрабіць, каб патэнцыял гэтай зямлі, гэтае грамадскасці, мог быць лепш выкарыстаным.

Папярэдзіла на самым пачатку дыскусіі, што ў час індывідуальных сустрэч (прыйшло на іх на працягу шасці гадзін больш за трыццаць асоб) не было ніякай скаргі з боку падляшскіх нацыянальных меншасцей. Шмат месца прысвяціла архітэктурным праблемам Беластока, на якія натыкаюцца інваліды (напрыклад занізкія ўезды):

— Трывогу выклікае рэнавацыя парку Браніцкіх. Пазбаўляючы гэтае месца асфальтаваных сцежак, не ўдасца там праехаць на інваліднай калясцы. Раю праехацца ўладам такой каляскай па горадзе.

Успамінаючы аб незаяўленым візіце ў беластоцкім закрытым асяродку для чужаземцаў Памежнай аховы (дайшло тут, падобна як у іншых такога тыпу асяродках у Польшчы, да бунту па прычыне ўмоў прабывання і трактавання), заахвочвала няўрадавыя арганізацыі да «ацяплення» ўмоў пабыўкі ў ім. Анна Радзюкевіч з Фонду князя Канстанціна Астрожскага, публіцыстка штомесячніка «Przegląd Prawosławny» пераконвала, каб ЗГП прыгледзелася цягнучайся справе люстрацыі дэпутата Яўгена Чыквіна (галоўны рэдактар штомесячніка «Przegląd Prawosławny»; апошні люстрацыйны працэс цягнецца ўжо амаль чатыры гады; агулам гэтае пытанне разглядалася за апошнія дваццаць гадоў і папярэдне кончылася ачышчэннем дэтутата з абвінавачанняў):

— Гэтая справа выклікае асацыяцыі, што беларусы, праваслаўныя не служаць дзяржаве. У час працэсу гучалі пытанні, ці доказы ў гэтай справе сапраўдныя.

ЗГП абяцала, што прыгледзіцца, ці выпадкова працэс не вядзецца лішне запавольна:

— Працяглы працэс такога тыпу вельмі балючы і патрабуе асаблівай далікатнасці. У таталітарнай сістэме меншасці былі бачаныя як слабая ахвяра. Гаворка тут аб дыскрэдытаванні. Часта даходзіла да правакацыі. Ведаю шмат такіх спраў з Сілезіі, з якой я родам.

Прадстаўніца згуртавання «Stop bezprawiu» ў сваю чаргу звярнулася з заклікам да супрацьдзеяння — як гэта назвала — напышлівым паводзінам і паталогіі чыноўнікаў рознага ўзроўню, а нават пануючай сярод іх карупцыі. Андрэй Раманчук з Рускага грамадска-культурнага таварыства (далучылася да яго таксама «Ніва») паскардзўся на рыхтаваную праграму супрацоўніцтва горада Беластока з няўрадавымі арганізацыямі ды іншымі арганізацыямі вядучымі дзейнасць публічнай карысці ў 2013 годзе:

— У дзесятках пунктаў толькі адзін з іх датычыць меншасцей і гучыць «дапамога ў інтэграцыі нацыянальных і этнічных меншасцей». Падобна ў стратэгіі развіцця Беластока і іншых доўгатэрміновых дакументах меншасная праблематыка маргіналізуецца або прамоўчваецца.

Омбудсмен Ліповіч пракаментавала, пашыраючы праблему:

— Гэта пагрозлівае, бо хаця б вялікія інвестары інвестуюць там, дзе таксама хочуць іх працаўнікоў, а сёння яны з розных культур і розных веравызнанняў. Нацыянальная разнастайнасць гэта козыр і гаворка тут не толькі пра роўнае трактаванне. Гэта не ласка. Апасаемся, што страцім такім чынам імідж прыязнага месца.

Успамінаючы аб бежанцах і чужаземцах прабываючых у Беластоку, заявіла:

— Тут іх пачуццё бяспекі вельмі хісткае. Не хапае ім даверу да дзяржаўных органаў. Не для таго паліцыя, каб была бездапаможнай.

Адзін з прысутных на сустрэчы чачэнцаў заявіў, спасылаючыся на акты насілля з боку падляшукоў, з якімі сустракаюцца ён і яго землякі:

— Калі вы не можаце нас абараняць, дык з'едзем адсюль. Паліцыя не можа глядзець праз пальцы.

Адна чачэнка, пасля прынятая воплескамі і хваляваннем, пераконвала:

— Нашы дзеці могуць стаць добрымі грамадзянамі гэтай краіны і горада. Гэтага хочам. А часта тлумачыцца (у спрэчных пытаннях — М. Х.): «Такі польскі закон», а вы кажаце, што закон кепскі і трэба яго змяніць, і гэта суцяшае. За шаснаццаць гадоў, калі я жыву ў Польшчы, благія з'явы мацнеюць. Не хапае ведаў пра людзей прыязджаючых у Польшчу. Сотні раз я чула: «Чаго вы тут шукаеце?» Нічога. Баімся за сваё жыццё ў сваёй краіне, хочам проста жыць. Ганьбай для чачэнцаў ёсць скарга і плач. Для палякаў гонар не ёсць жа чужым словам. Стаўлю сабе пытанне: як катскі прымусіць, каб мяне палюбілі?

Ірэна Ліповіч адказвала:

працяг ☞11

## Дзе пашана для закону?...

Рэалізуючы інвестыцыйныя задачы па мадэрнізацыі лакальнай інфраструктуры, гмінныя самаўрады мелі магчымасць пакарыстацца „Дзяржаўнай праграмай лакальных дарог", г.зв. „схэтынувак". Праграма прадбачвала датацыю ў памеры 30% вартасці праекта.

— У верасні быў аб'яўлены конкурс заяў, — гаворыць наменнік войта Чаромхаўскай гміны Ірыней Леанюк. — Мы паслалі праект мадэрнізацыі вуліц ва ўрочышчы „Каганка" (новы пасёлак). Ацэначная вартасць праекта гэта 3 322 166,43 зл., прытым разлічвалі на датацыю ў памеры 996 648 зл. Заявы паслалі каля шасцідзесяці самаўрадаў. Афіцыйна стала вядомым, што наша заява была адобрана і ў рэйтынгу апынулася на 19 месцы. 29 лістапада атрымалі мы паведамленне ад ваяводы, што Рада Міністраў прыняла новыя прынцыпы размеркавання дзяржаўнай дапамогі на рамонт лакальных дарог. Зараз гміна можа разлічваць на 50-працэнтную датацыю, другую палову трэба ёй пакрыць з гміннай касы. У сувязі са зменамі падляшскі ваявода Мацей Жыўна аб'явіў дадатковы тэрмін падачы прапаноў. Заявы можна дасылаць на працягу 21 дня. Камісія будзе разглядаць адно дадаткова дасланыя заявы. Канчатковы спісак самаўрадаў, якія атрымаюць грошы, будзе вядомы ў палове студзеня. — Самае сумнае ў тым, — заключае спадар Ірыней Леанюк, — што Падляшша на 2013 год атрымае напалову менш грошай. Пачатковы прагноз прадбачваў 56 мільёнаў зл. на мадэрнізацыю падляшскіх дарог, але ваявода атрымае адно 28,5 мільёна. Зараз я няўпэўнены, ці атрымаем грошы, хоць раней заява была адобрана. Менш грошай пры пабольшанай датацыі абазначае скарочаны спісак бенефіцыянтаў. Ці гэта магчыма, каб пасля закончанага конкурсу мяняць яго прынцыпы? — задумваецца чаромхаўскі чыноўнік. — Дзе пашана для закону?...

**Уладзімір СІДАРУК**

## Кроў ратуе

23 лістапада г.г. у Гайнаўскім доме культуры адбылася традыцыйная восеньская сустрэча заслужаных пачэсных донараў Гайнаўскага павета. Чатыры асобы атрымалі ганаровыя значкі Польскага чырвонага крыжа. Для васьмідзесяці асоб уручылі значкі „Заслужаны пачэсны донар". Значкі І-й ступені атрымалі 10 асоб, ІІ-й — 11 і ІІІ-й — 59. Зараз у Нараўчанскай гміне найбольш заслужанымі донарамі з'яўляюцца Марцін Валкавыцкі, Каміль Стальбоўскі, Альжбета Внук, Мацей Буйко, Шыман Яцкевіч, Давід Барташук і Рыгор Пшэкоп — усе яны з Нараўкі, Ян Бура з Новага Ляўкова ды Андрэй Янюк з Плянты. Усім ім належыцца вялікая пашана. Іх кроў ратуе жыццё хворым.

**(яц)**

## Размовы аб... музыцы

Сустрэча з выдатным кампазітарам **Рамуальдам Твардоўскім**, ад 30 гадоў старшынёю журы Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі „Гайнаўка", усебаковым кампазітарам, у тым ліку творцам царкоўнай музыкі, а таксама „Песні Белавежы" на словы А. Барскага, В. Шведа і Ч. Мілаша.

**Сардэчна запрашаем!**

Цэнтр прамоцыі рэгіёна „Чарлёнка"
ул. Тамары Саланевіч, 2
17-200 Гайнаўка
7.12.2012 г. (пятніца) гадз. 17:00



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# У Дубінах з дзяўчынкай, хмаркай і дубаносам



Вучні пачатковай школы і гімназіі ў Дубінах з настаўніцай беларускай мовы Нінай Куптэль 27 лістапада перад поўднем прыбылі ў Гмінны цэнтр культуры. Кіраўнік бібліятэкі Раіса Кот чакала ўжо ў зале абагрэтай камінком, аздобленай малюнкамі вучняў да вершаў і апавяданняў Міры Лукшы. Вучняў найбольш уразіла апавяданне пра тое, як дзед з бабуляй, не меўшыя ўжо свайго поля, ходзяць на кінутае чужое поле па трускалкі. І да таго тэксту было некалькі малюнкаў, больш рэалістычных і сімвалічных. З усіх сабраных вучняў аж 29 былі ўзнагароджаны за свае вобразы, выкліканыя творамі аўтаркі, якая прыехала ў госці. Былі гэта Караліна Вішнеўская, Куба Саўчук, Філіп Кот, Міхал Гіншт, Даніла Каролька, Дам'ян Нестэрчук, Юліта Ігнацюк, Куба Секан, Оля Чэпель, Лукаш Стасінкевіч, Вераніка Пташынская, Моніка Анішчук, Кшысь Астапачук, Мая Астапчук, Юльян Астапчук, Куба Стасінкевіч, Агнешка Анішчук, Агата Яканюк, Юлька Масайла, Ігар Міхальчук, Юлька Кічкайла, Гарбыся Непагода, Юлька Койла, Габрыся Крупа, Наталля Капейчык, Лукаш Сінякові, Марлена Аўярчук, Оля Якубоўская. Праўда, некаторыя прозвішчы вам вядомыя, з розных беларускіх мерапрыемстваў. Вучні дэкламавалі вершы з „Жывінак з глыбінкі", а гімназісткі Эвеліна Паскробка і Мілена Сямёнчык прачыталі вельмі старое (1993 г.) апавяданне пра тутэйшы „Лес", дзе выступілі „ліцьвінскія" прозвішчы — сярод вучняў падобныя маюць Оля Чэпель, Юлькі Койла і Кічкайла, пані Ніна Куптэль і сама аўтарка Міра Лукша!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Фота Ганны Кандрацюк

## Вершы Віктара Шведа

### Скарга вучня

— У нашай хаце поўна жывёл.
Мама сказала, што тата асёл.
А тата адказвае залпам,
Што нашая мама — малпа.

І таму задаю сабе труду,
Кім, скажыце, тады я буду?
І таму я сябе азадачыў,
Не магу адказаць, ну і плачу.

### Хворы зубок

Завезла машынай мама
У паліклініку Адама.
І вырваў лекар зуб балючы,
Ды надалей ён хлопца мучыць.

Мама спыталася: — Сынок,
Яшчэ баліць табе зубок?
— Не ведаю аб ім нічога,
Астаўся ў лекара зубнога.



# Конкурс пра зіму (36)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Як называліся тры пасланнікі з Усходу (вядомыя ў народзе як Тры Каралі), якія дарамі прывіталі нованароджанага Ісуса Хрыста?**
а) Каспар, Ян, Віталь,
б) Каспар, Мэлхіёр, Бальтазар,
в) Санта Клаўс, Бальтазар, Каспар.

**2. З якім музычным інструментам беларусы сустракалі Каляды?**
а) гармонікам,
б) дудой,
в) скрыпкай.

**3. З якога свята беларусы Падляшша пачыналі вывучаць калядкі і ўпрыгожваць калядную зорку?**
а) ад свята Увядзення ў храм пр. Дзевы (4 снежня),
б) ад пачатку посту,
в) ад 1 снежня.

Адказы на конкурс дасылайце да 20 снежня 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі").

Адказ на конкурс № 33: 1 — Венецыя (в), 2 — у Орлі (в), 3 — сябра той, хто кажа праўду (б).

Узнагароды — майкі з лагатыпам „Нівы" — выйгралі **Уршуля Марчук, Караліна Каравай, Аня Бяляўская** з Нараўкі, **Патрыцыя Міхальчук, Магдалена Ваўранюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

**ЗОРКА**



Пятакласнікі з гайнаўскай „чацвёркі"

# У Кладачцы страшыць

Паміж Круглым Ляском і вёскай Сушча сцелецца лясная дарожка. Яна ідзе праз стары лес. Гэтае месца называюць Кладачкай, таму што яно, як кладка праз раку, спалучала дарогу на два базары. Калісь людзі фурманкамі вазілі прадаваць тавары на рынак у Ялоўку і Свіслач. Вазілі таксама малако ў Круглы Лясок. Паколькі гэта была далёкая дарога, яны вярталіся вечарам. У Кладачцы на воз невядома хто ўкідваў вялікі драўляны пень, быццам сухоны звіток. Калі пераехалі лес, на возе не было нічога. Напалоханыя людзі баяліся праязджаць праз гэтае месца, але, на жаль, іншай дарогі не было. Праз некалькі гадоў людзі прагналі малітвамі нячыстую сілу.

Гісторыі сабрала **Юліта Грыка** — вучаніца І класа гімназіі ў Міхалове ад бабулі **Рэгіны Міруць**, жыхаркі вёскі Бярдзюга


Беларуская хатка ў беластоцкай „чацвёрцы"


Нашыя нараўчанкі на пушчанскай дарозе.

# Як запускаліся ў Нараўцы

23 лістапада 2012 г. у Комплексе школ у Нараўцы выхаваўцелі і вучні наладзілі апошнюю перад постам школьную дыскатэку.

Як кожны год, вучні I-III класаў гімназіі гулялі на дыскатэцы, якая была прымеркавана да свята Андрэя і таму не магло абысціся без варажбы. Пан Богдан дапамагаў нам у прыдумванні цікавых гульняў, такіх як танец на газеце, танец з шарыкамі, цягнік ці гарачыя крэслы.

Як заўсёды, не абышлося без беларускай музыкі. Нас не здзіўляла, што калі пачуліся першыя гукі песень „Чараўніца", „Смэрэка" ці „Канікулы", у зале раптоўна рабілася цесна. Усе любяць такую музыку, ведаюць словы і ахвотна спяваюць. Пры такіх рытмах нават тыя, якія дагэтуль падпіралі сцены, пачалі танцаваць.

За музычнае афармленне дыскатэкі адказнымі былі Радэк Васько, Наталля Васько і Каміль Садоўскі. Са сваёй задачай яны справіліся на шасцёрку.

Вучні нашай школы выдатна гулялі. Усе танцавалі і спявалі. Забава была цудоўная, шкада толькі, што скончылася інакш чым у песні „як забава, забава, то до рана".

**Наталля Васько**
**I клас Гімназіі ў Нараўцы**

## Хто задзірае нос угору

*(беларуская народная мудрасць)*

*Спытаў хлопчык бацьку: „Скажы мне, тата, чаму гэта адзін колас так гнеца да зямлі, а другі — тарчыма тарчыць?"*

*— Які колас поўны, — адказаў бацька, — той да зямлі гнеца, а які пусты, той і тарчыць угору.*

## Скорагаворка

**Смактаў соску Стась са смакам. Шасцігодак?! Небарака!**

**Міра ЛУКША**

# Музыка з кайфам

## «Іло&friends» у Менску




Гурт «Іlo&friends» — адзін з нешматлікіх, які на Беласточчыне выконвае сучасную музыку з тэкстамі на беларускай мове. Але не так ужо натуральнае, што такі гурт едзе на канцэрт у Беларусь. Шчыра кажучы, апошні раз гурты з Беласточчыны ездзілі ў Беларусь у 2002 годзе, калі пасля поспехаў на «Басовішчы» ў Менск паехалі «RIMA» і «Zero-85». Успаміны засталіся розныя і хіба з-за гэтага доўга трэба было пераконваць хлопцаў, якія тады ездзілі з гуртом «RIMA», а зараз выступаюць з «Іlo&friends», што варта сваю музыку завезці менчукам. Патрэба было, зразумела, зацікаўленне з беларускага боку, а тое прыйшло, калі беластоцкія «Фрэндсы», побач гурту «Re1ikt» і Сяргея Пукста, узяліся ў рамках супольнага праекта «Тузіна Гітоў» ды Падляшскай оперы і філармоніі агучваць нямую беларускую кінастужку. Гэта была ідэальная нагода, каб паехаць у Беларусь. Ахвота была вялікая, бо хаця праект прадбачваў, што прэм'ера «Прастытуткі» з 1926 года, якую «Фрэндсы» агучылі, мела быць у Беластоку, гурт усё ж такі паехаў у Менск. Да прэм'еры фільма гурт адкрыў яшчэ выстаўку афішаў з 20-х гадоў XX стагоддзя, якія прамавалі тагачаснае кіно. Канцэрт прайшоў у невялічкім паб-клубе «Графіці», дзе сапраўды камерна, але і якасна прагучаў акустычны матэрыял гурту. На другі дзень гэтага невялічкага туру мерапрыемства перанеслася ў «Лофт Кафэ», дзе «Іlo&friends» запрэзентавалі сваю візію прапагандысцкага фільма 1926 года, які накіраваны на камерцыйны поспех шэдэўрам не быў, але, паводле прысутнага на прэм'еры кінакрытыка Андрэя Расінскага, дзякуючы музыцы гурту атрымаў новае, сапраўды якаснае жыццё. Пасля паказу фільма музыкі павялі публіку праз энергетычны канцэрт з выкарыстаннем акустыкі і электрычнасці. Вялікай нечаканасцю былі рэакцыі публікі на ўсіх канцэртах. Хаця не было яе зноў так шмат, то аказалася, што людзі ахвотна набываюць дыскі і просяць падпісаць іх. Самае галоўнае, былі асобы, якія гурт ведалі з інтэрнэту і чакалі канцэрта нават два гады, да чаго проста прызнаваліся ў гутарках з музыкамі. Гэта было не толькі цікавае падарожжа, але і патрэбнае. Напэўна павінна быць іх больш, толькі каб было каму ездзіць.

**i_basovka@o2.pl**

# Польска-беларуская крыжаванка № 50

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 45:

Адзнака, град, Крым, гоп, маса, самавар, камора, Ага, нос, як, малако. Сеанс, арка, дар, Ас, здымак, мама, сам, ял, гаворка, ало, парахно.

Узнагароды, аўтаручкі з лагатыпам „Камунікату", выйгралі **Адам Юрчык, Крыстына Леўша, Наталля Лукша, Караліна Каравай** з Нараўкі, **Магдаліна Хвашчэўская, Аляксандра Зіневіч, Магдаліна Ваўранюк, Габрыель Кузьмін** з Бельска-Падляшскага, **Караліна Кадлубоўская, Мартына Леанюк, Моніка Зырчук-Жар** з Орлі. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Miecz / Jadło | Podstawa | Lekarz | Wieża | | Woda | | Koń | Bierz |
| | | | Wagon | | | | | | Szkoła |
| | Ślad / Świat | | | | | Nasz / Nuty | | | |
| Grudzień | | | | | | | | | |
| Oko | | | | | | | No | | |
| Ewa / Starzec | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | |

# Выступілі з беларускім словам і нашымі песнямі



„Знічка"



Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

Настаўнік беларускай мовы ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы і заадно намеснік старшыні аб'яднання «Музей і асяродак беларускай культуры» Ян Карчэўскі з'яўляецца галоўным арганізатарам двух мерапрыемстваў, у якіх актыўна прымаюць удзел дзеткі і моладзь Гайнаўскага павета. Першае — Конкурс расказчыкаў «Беларуская гавэнда», ладзіцца ўжо ў белліцэі звыш дзесяці гадоў, а другое — «Мастацкія сустрэчы школьнікаў», арганізуюцца з дапамогай белмузея ўжо дзевяты раз. Можна сказаць, што задума, каб праз беларускае слова і нашыя песні заахвочваць дзетак да адукацыі на роднай мове і да творчай актыўнасці, спраўдзілася, бо пасля частка гэтых вучняў паступае ў Гайнаўскі белліцэй і наведвае выстаўкі ў белмузеі. Выступленні вучняў на беларускай мове паказваюцца па тэлебачанні, транслююцца па радыё і апісваюцца ў прэсе. Такім чынам ініцыятывы накіраваныя да школьнікаў становяцца вядомымі шырокаму колу нашага грамадства. Бацькі бачаць дэкламацыю, спевы і тэатральныя выступы з беларускім словам і гэта дапамагае ім вырашыць ці пасылаць сваіх дзетак на ўрокі беларускай мовы.

На IX Мастацкія сустрэчы школьнікаў, што 18 лістапада ўдала прайшлі ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, прыбылі таксама журналісты тэлебачання, радыё і прэсы. Прыйшлі ў кіназалу белмузея сямейнікі юных самадзейнікаў і гайнавяне, зацікаўленыя актыўнасцю дзетак і моладзі.

Асабліва хваляваліся бацькі першакласнікаў Падставовай школы № 6 у Гайнаўцы, паколькі іх дзеткі ў белмузеі ўпершыню выканалі беларускі народны танец. Аднак юныя танцоры вельмі ўдала справіліся са сваёй задачай і адважна затанцавалі перад публікай. З танцам выступілі таксама вучні Гімназіі № 2, якіх, так як першакласнікаў, рыхтавала настаўніца беларускй мовы Беата Кендысь. У час мерапрыемства прысутная была віцэ-дырэктар Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы Аліцыя Дзмітрук, якой сын танцаваў перад сабранымі.

— Складана падабраць рэпертуар, каб падабаўся моладзі. Мае вучні любяць выступаць у музеі з танцамі і таму падрыхтавалі мы танцавальную праграму. Асабліва хваляваліся першакласнікі, але ўжо затанцавалі і бацькі рады, што выступілі іх дзеткі, — сказала настаўніца Беата Кендысь.

— Мы спецыяльна рыхтавалі праграму на выступ у музеі. Нашыя бабулі прыйшлі паглядзець як выступаем. Паколькі мы любім танцаваць, рашыліся выступіць з танцам, — гаварылі Дарота Артышук і Наталля Асташэўская.

З прадстаўленнем «Вясёлка» запрэзентаваліся трэця- і чацвёртакласнікі Падставовай школы № 2 з інтэграцыйнымі аддзяленнямі, якіх падрыхтавала настаўніца беларускай мовы Ева Аніщчук. Інсцэніроўку «Восень» падрыхтавалі вучні чацвёртага класа Падставовай школы № 6, якія займаюцца ў кружку беларускай мовы з настаўніцай Людмілай Грыгарук.

— Калі вучні рыхтуюцца да выступаў з беларускім словам, дапамагаюць ім бацькі. Гэта выклікае сямейную актыўнасць. На занятку ў кружку беларускай мовы ў нашай школе пачалі хадзіць новыя вучні. Сёння будзе магчымасць паглядзець актыўнасць дзетак з іншых школ, — сказала настаўніца Людміла Грыгарук.

Настаўніцы Комплексу школ № 3 цешацца, што ў іх школе на занятку беларускай мовы ходзіць каля 200 асоб. Штораз больш дзетак запісваюць бацькі на занятку беларускай мовы ў першых класах падставовай школы..

Вучні Падставовай школы № 3 у мінулых гадах выступалі з жартоўнымі сцэнкамі і ў гэтым годзе таксама выступілі з гумарам. Душой усёй школы з'яўляецца Дамініка Пуц, якая ў белмузеі выступіла з гавэндай «Пан і казачнік» і разам з Касяй Чакунаў і Магдаленай Бярэзняк цікава запрэзентавалася ў інсцэніроўцы песні «Палюбіла я яго». Сола беларускія песні прыгожа праспявала Наталля Саковіч. У цэлым выступ вучняў з самай малой па колькасці навучэнцаў школы, якіх падрыхтавала настаўніца беларускай мовы Марыя Крук, расцягнуўся ў часе.

— Многа працы трэба ўкласці, каб падрыхтаваць дзетак да ўдалага выступу. Мае вучні любяць паказвацца ў жартоўных сцэнках і таму мы такія паказваем. Шкада толькі, што самыя здольныя вучні закончаць адукацыю ў нашай школе, — гаварыла настаўніца Марыя Крук. — Аднак я рада, што амаль 70% вучняў нашай школы ходзіць на заняткі беларускай мовы. У мінулым былі нават такія класы, дзе ўсе дзеткі вучыліся беларускай мове.

— Я штогод прыходжу на імпрэзу «Мастацкія сустрэчы школьнікаў», бо выступае мая дачка Наталля. Цікавае гэта мерапрыемства і я лічу, што павінна яно арганізавацца і ў будучыні. Падобныя імпрэзы павінны часцей ладзіцца ў музеі, — заявіла Ева Саковіч.

У белмузеі дзейнічае тэатральны кружок пад наглядам Іаанны Стэльмашук-Троц. Планаваўся яго выступ, але, на жаль, па асабістых прычынах кружок не змог запрэзентавацца перад гайнаўскай публікай.

— Кожны год прэзентуецца новы і цікавы рэпертуар. Мяне зацікавіў выступ таленавітай вучаніцы Дамінікі Пуц, якая і ў мінулых гадах паказвала перад публікай свае акцёрскія здольнасці. Мы запрапанавалі ёй выступаць у нашым музейным тэатральным кружку, каб магла разгарнуць свой талент пад наглядам Іаанны Стэльмашук-Троц, — заявіў дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк.

**Можна сказаць, што задума, каб праз беларускае слова і нашыя песні заахвочваць дзетак да адукацыі на роднай мове і да творчай актыўнасці, спраўдзілася, бо пасля частка гэтых вучняў паступае ў Гайнаўскі белліцэй і наведвае выстаўкі ў белмузеі.**

На беларускай і польскай мовах удала дэкламавала Магдалена Гаўрылюк з гайнаўскай белгімназіі. Беларускія песні вельмі прыгожа праспявала Юліта Ваўрашук, белліцэістка, якая штодзень займаецца у Студыі песні ў Гайнаўскім доме культуры. Займала яна прызавыя месцы ў конкурсах, між іншым перамагла, выступаючы сола і ў групе, у апошнім Конкурсе беларускай песні для школьнікаў.

— Новы склад, новы рэпертуар, новая аранжыроўка выступу, — сказаў вядучы мерапрыемства настаўнік Янка Карчэўскі, аб'яўляючы невялікі канцэрт у выкананні вакальнага калектыву «Знічка» з белліцэя, які запрэзентаваўся ў амалоджаным складзе і завяршыў мерапрыемства ў белмузеі. Песні а капэла і пад музычны акампанемент, а таксама мужчынскія галасы зрабілі вялікае ўражанне на публіцы. Маладыя людзі з вялікай ангажаванасцю стараліся як мага найлепш запрэзентавацца перад сабранымі.

— У амалоджаным складзе публічна выступаем першы раз. Падрыхтавалі мы многа новых песень, бо неўзабаве выязджаем на выступы ў Берлін, на запрашэнне, якое атрымалі з дапамогай Гайнаўскага старасты. Цяпер у «Знічцы» займаецца 17 дзяўчат і 4 хлопцаў, але не ўсе сёння выступілі. Мы ўключылі ў састаў калектыву хлопцаў, бо з мужчынскімі галасамі можна запрэзентаваць больш багаты рэпертуар, — гаварыла апякун «Знічкі» Бажэна Ляўчук.

— Я люблю спяваць беларускія песні і таму рашылася займацца ў «Знічцы». Калі я была малой, мая мама вучыла мяне спяваць па-беларуску. Зараз магу выступаць са сваімі песнямі ў белліцэйскім калектыве, — сказала Дамініка Юшкевіч. Раней, будучы яшчэ вучаніцай школы ў Нарве, праяўляла яна актыўнасць у дэкламатарскіх конкурсах і прадметным конкурсе па беларускай мове, а зараз мае магчымасць разгарнуць свой вакальны талент.

Магчыма, што некаторыя дзеткі з-за хвалявання не змаглі поўнасцю паказаць сваіх тэатральных здольнасцей. Аднак большасць вучняў выступіла адважна і з верай у свае магчымасці. Пасля выступаў школьнікі з радасцю ішлі на пачастунак, распавядаючы педагогам пра свае ўражанні.

Сёлетні ўзровень выступаў быў розны, бо і розныя вучні рашыліся праявіць сваю актыўнасць. Думаю, што самым важным была іх актыўнасць у пазаконкурсным прэзентаванні таго, чаму навучыліся на ўроках або на пазаўрочных кружках беларускай мовы. Тыя вучні, якія менш адважна вялі сябе на сцэне, могуць, напрыклад, перамагчы ў прадметным конкурсе па беларускай мове або ў будучыні ў спартыўных спаборніцтвах, якія таксама ладзяцца для навучэнцаў школ з беларускай мовай навучання.

— Цешыць, што рэпертуар быў багаты і разнастайны. Перад сабранымі выступілі вучні ад першага класа падставовай школы ажно да ліцэістаў. Важна таксама, што вучні могуць запрэзентаваць сваю праграму перад шырэйшай публікай, па-за школай, — сказаў Янка Карчэўскі, які збіраў заяўкі са школ і складаў праграму выступаў. У наступным годзе плануе ён наладзіць дзесятыя — юбілейныя — Мастацкія сустрэчы школьнікаў.

# Вяртанне калектыўнага твора

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**Ужо восьмы раз прадстаўнікі свету падляшскай культуры размаўлялі аб гэтай галіне жыцця ў рамках сімпозіума „Варта спытацца пра культуру”. У чарговы раз дыскусія вялася ў маляўнічым дворыку Чэслава Мілаша ў Краснагрудзе непадалёк Сейнаў — у Міжнародным цэнтры дыялогу. У гэты раз сустрэча была падрыхтавана пад лозунгам „Новыя формы калектыўнага твора ў культуры. Су-ствaранне, дзейнічанне, існаванне”. Адбылася яна з патрэбы размовы і садзейнічання ў абшары спраў найважнейшых для падляшскага рэгіёна ў шырока разуметым культурным маштабе ды найбліжэйшага яго суседства — Усходняй Польшчы і яе суседзяў.**

Сёлета інспірацыяй для гэтага дыскусійнага форуму была вераснёвая ініцыятыва дырэктаркі Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі Агнешкі Карыткоўскай-Мазур — „**Wspóltura**”, згодна з якой вядуцца пошукі магчымасці інтэграцыі мастацкіх асяроддзяў Падляшша і будаванне супольнай платформы дзеянняў творцаў культуры і агранізатараў культурнага жыцця (мы пісалі аб гэтай ідэі зараз пасля яе зацвярджэння). Першапачаткова далучэнне да гэтай формы супрацоўніцтва і дзеяння заявіла дваццаць адна арганізацыя і ўстанова займаючаяся культурай, сядзібы якіх галоўным чынам змяшчаюцца ў Беластоку, хаця не толькі там, з дзейнасцю выпраменьваючайся таксама па-за падляшскую сталіцу. Супрацоўнічаюць з ёю м.інш. „Ніва”, Беларускае аб’яднанне студэнтаў, Музей малой айчыны ў Студзіводах (спісак удзельнікаў надалей адкрыты). У цяперашні час ахвоту ўдзельнічаць у „Вспультуры” задэкларавала больш за шэсцьдзесят г.зв. суб’ектаў.

Удзельнікі сімпозіума (23-25 лістапада) распрацавалі дэкларацыю ў справе актуалізацыі стратэгіі развіцця Падляшскага ваяводства да 2020 года: „Лічым, што вельмі важным з’яўляецца, каб у гэтым дакуменце паўнейшы вобраз знайшла спасылка на стратэгію „Еўропа-2020”, да праекта доўгатэрміновай стратэгіі краіны да 2030 года, як і таксама прынятай ужо стратэгіі развіцця краіны да 2020 г. Выказваем клопат за згоднасць зместу стратэгіі развіцця Падляшскага ваяводства да 2020 г. з вышэйпрыведзенымі дакументамі, з асаблівым прыняццем пад увагу праекта ўрадавай стратэгіі развіцця сацыяльнага капіталу. Гэтая ардацыя змяшчае дэталёвы аналіз ды прапановы дзеянняў на абшары культуры, адказваючыя на выклікі сучаснага свету. На нашу думку бясспрэчнае тое, што інвестыцыя ў культуру з’яўляецца махавіком рэгіянальнага развіцця. Гэты факт знаходзіць адлюстраванне ў запісах рапарта „Польшча-2030” ды доўгатэрміновай стратэгіі развіцця краіны да 2030 г., дзе сацыяльны капітал быў палічаны ключавым пытаннем маючым вырашальны ўплыў на грамадскую, тэрытарыяльную і эканамічную згуртаванасць краіны і рэгіёна. Сабраны калектыў людзей культуры, навукі, разнароднай грамадскай актыўнасці, якія дзейнічаюць у рамках сацыяльнага руху „Вспультура”, выказвае патрэбу і волю ўдзельніцтва ў працэсе апрацоўвання дакументаў стратэгіі развіцця Падляшскага ваяводства да 2020 года”.

Прыняцце гэтай дэкларацыі папярэдзіла кіпучая дыскусія, якую заініцыявала выступленне Кшыштафа Чыжэўскага, кіраўніка Асяродка „Пагранічча — мастацтваў, культур і народаў” і Міжнароднага цэнтра дыялогу ў Сейнах ды старшыні Рады культуры Кангрэса Усходняга партнёрства, пад лозунгам „У пошуках новых форм калектыўнага твора ў культуры”. Пачаў ад заўвагі:



Кшыштаф Чыжэўскі, Агнешка Карыткоўская-Мазур, Рафал Казінскі

— У нашай цывілізацыі заўсёды існавала туга па калектыўным творы і пачуцці, што мы яго страцілі. Яна супярэчлівая з дэміургічнай моцай мастака і яго эга. Мы звязалі мастацтва і культуру з моцным эга дэміурга. Ці нам наканавана такое разуменне творчай дзейнасці? Спрабуем гэта падарваць.

Заўважыў:

— Часта ў розных культурных прапановах не прыкмячаем энергіі месца (гаворка, між іншым, пра гістарычную памяць, звязаную з культурай шматлікіх народаў у розных месцах на Падляшшы — М. Х.). У імя памяці хочам увекавечыць і таму ствараем мёртвыя шкарлупіны, а трэба ісці ўперад. Гэтыя месцы павінны быць у пошуках, у эксперыменце. Трэба з мінулым размаўляць. Мой боль заключаецца ў тым, што здаўна не маем доступу да цэласці. Гэта так, як з іконай у галерэі, дзе бачым урывак літургічнага твора, пазбаўленага элементаў, якія складваюцца на яго: святла, харавой музыкі, паху кадзіла...



На думку Кшыштафа Чыжэўскага, спробай збудавання калектыўнага твора з’яўляецца якраз „Вспультура”, якая можа быць — прымяняючы акрэсленне Чэслава Мілаша — злучальнай тканкай Еўрапейскай сталіцы культуры (будзе ёю ў 2016 г. Вроцлаў; Кшыштаф Чыжэўскі з’яўляецца мастацкім дырэктарам гэтага праекта):

— Ідэі ЕСК спадарожнічае памяць, што мы калісьці штучна аддзялілі культуру ад навукі, асяроддзя, грамадскіх спраў і г.д. Пошукі спасылак, да якіх хочам звяртацца, неабходныя пры вяртанні да думкі аб калектыўным творы. Праца над ім патрабуе новых прылад. Новыя праекты патрабуюць мастакоў новай генерацыі, іншых чым працуючых у закрытых жывапісных ці скульптарскіх студыях.

Агнешка Карыткоўская-Мазур, спасылаючыся на ідэю „Вспультуры” заявіла:

— Неабходная распрацоўка супольнай мовы, ды такое, якая не выключае індывідуальнага развіцця і патрэб. Рысы паасобных устаноў трэба перастварыць на мэты „Вспультуры”. Няма сэнсу спяшацца з яе фармалізацыяй, непатрэбная яна для супрацоўніцтва паміж намі, а толькі з установамі. Найбольшае заданне — як раcпрацаваць штосьці, чаго не маюць іншыя гарады. Мусім удакладніць, чаму служыць ідэя „Вспультуры”.

Тут Кшыштаф Чыжэўскі паставіў пытанне:

— Як адрэкамендаваць Беласток у ЕСК? Ці як іншую, новую якасць, ці толькі як івент (аднаразовае здарэнне — М. Х.)?

І сам сабе адказаў:

— Гаворка пра адрэкамендаванне іншай якасці пагружанай у часе. Маем на гэта тры гады.

Дырэктар Карыткоўская-Мазур:

— Мусім карыстацца энергіяй людзей згэтуль, супольна даставацца да духу месца. Калі людзі сюды штораз часцей вяртаюцца, гэта значыць, што гэтае месца будзе прыцягваць менеджараў і спецыялістаў, ды мусяць яны мець культурнае асяроддзе.

На сімпозіуме былі прысутныя прадстаўнікі культурнага жыцця Любліна. Рафал Казінскі, люблінскі аніматар культуры, адзначаў:

— Калектыўны твор гэта сум па страчаным. Беласток мусіць выявіць сваю тоеснасць, схацець адказаць, што можа ўнесці ў еўрапейскую культуру. Беласток мае іншае мышленне аб часе і сустрэчы.

Люблінцы заахвочвалі „Вспультуру” да арганізацыі, на яго прыкладзе, „Ночы культуры”, шматлікх супольных культурных дзеянняў у гарадской прасторы і ў той самы час.

Тамаш Суліма з Музея малой айчыны ў Студзіводах разважаў, ці сталіца ў кантэксце ЕСК і Беластока як сталіцы рэгіёна можа функцыянаваць без спасылкі на перыферыю рэгіёна. Кшыштаф Чыжэўскі звярнуў увагу на тое, што немагчымае функцыянаванне сталіцы без спасылкі на малыя айчыны, значыць, калі горад адмяжоўваецца ад рэгіёна.

Магдалена Лыжніцкая-Санчанка, дырэктарка дэпартамента замежнага супрацоўніцтва і прамоцыі Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, адзначыла ад імя чыноўнікаў:

— Мы не для таго, каб што-небудзь навязваць.

Кшыштаф Чыжэўскі:

— Факт, што „Вспультура” пачне дзейнічаць, будзе для вас (чыноўнікаў — М. Х.) новай якасцю і палёгкай у тым, на што ў вас няма часу.

Адказны за культуру ў МУПВ віцэ-маршалак Яцак Пярунак пераконваў:

— Чакаем ад вас руху. Чакаем, няхай „Вспультура” пачне дзейнічаць.

Тут Агнешка Карыткоўская-Мазур дакінула:

— Я б хацела, каб фармальныя меркаванні не стаялі на перашкодзе, калі гаворка пра фінансаванне „Вспультуры”, бо з-за гэтага можам страціць людзей і энергію. Можам дзейнічаць супольна, не супраць каго-небудзь.

Кшыштаф Чыжэўскі:

— Цікава, якія знойдуцца інструменты, каб „Вспультуру” не забіць. Гэтая ініцыятыва вымусіць новыя адміністрацыйныя вырашэнні.

Віцэ-маршалак Пярунак пры нагодзе не скрываў, што ў рамках шматлікіх абавязкаў звязаных з ягонай функцыяй „крышку займаецца пытаннямі культуры”:

— Не заўсёды ёсць час, каб прысвяціць сябе вашым праблемам.

Дэкляраваў:

— Не дазволім, каб „Вспультура” засталася без дафінансавання.

Заахвочваў дапоўніць рыхтаваную стратэгію развіцця ваяводства да 2020 г. так, каб запісаны ў ёй былі культурныя праекты:

— Сумяшчальнасць са стратэгіяй дае пункты канкрэтным праектам. У рамках Рэгіянальнай аперытыўнай праграмы лобі засяроджана на прадпрымальніцтве, зусім абмінаючы грамадскія пытанні, у тым ліку культуру, мяркуючы, што самаўрады павінны яе фінансаваць толькі з даходаў ад падаткаў „CIT”.

Анатоль Вап, дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны МУПВ у рамках дыскусіі спаслаўся на ідэю „Вспультуры” ў кантэксце культурнага маштабу Усходняга партнёрства і ЕСК:

— Для нас адзіным стратэгічным партнёрам на Усходзе з’яўляецца Беларусь. Трэба рабіць тое, што зрабілі ў Любліне, вярнуць Беластоку ягоную тоеснасць. У Любліне ўжо ніхто не пытаецца, чаму яго партнёрам з’яўляецца Украіна.

Дадаў:

— Ёсць патрэба іншага бачання культуры: як працягу палітыкі.

І зараз пасля:

— „Вспультура” вельмі патрэбная. Не мусіць быць сфармалізаванай, нават лепш, калі яна такой не ёсць.

Дэкларацыя, распрацаваная ў час сімпозіума, дзень пасля яго завяршэння была перададзена ў рукі падляшскага маршалка Ярaслава Дважанскага. У той самы дзень адбылася чарговая сустрэча „Вспультуры”. Дырэктар Карыткоўская-Мазур падзялілася з яе ўдзельнікамі весновамі з краснагрудскага спаткання. І так м.інш. звярнула ўвагу на вылучэнне прадстаўніцтва „Всупультуры” перад адміністрацыйнымі ўстановамі, неабавязковую неабходнасць яе фармалізацыі і заяву з боку чыноўнікаў пра фінансаванне яе прамоцыі (конкурс на лагатып, стварэнне сайта, календара мерапрыемстваў). Паінфармавала аб падрыхтаваных заявах у міністэрства культуры на датацыі на другі выпуск фестывалю — першага дзіцяці „Вспультуры” — „Прачытаць Беласток” (аб нядаўна завершаным яго першым выпуску мы пісалі тыдзень таму), спалучанага са спецыяльна збудаванай лёгкай архітэктурай у прасторы Беластока ды праекце „Паслы культуры”, у рамках якога вядомыя людзі перфарматыўнымі дзеяннямі заахвочвалі б на вуліцах да актыўнага ўдзелу ў культуры.

Сваім выказваннем задзівіла прысутная на гэтым чарговым ужо спатканні „Вспультуры” кіраўнік рэферата культуры беластоцкай Гарадской управы Анна Пецюль, паставіўшы пад сумненне ідэю сарганізавання яе ўдзельнікамі „Ночы культуры” ў рамках Дзён Беластока:

— Дні Беластока мелі датычыць Браніцкіх і ў прынцыпе мелі мець барочную афарбоўку.

# Не шкадую і сёння

За гэты час вырасла ўжо новае пакаленне несавецкіх людзей. 8 снежня мінае 21 год ад часу, калі ў Віскулях прайшла сустрэча найвышэйшых кіраўнікоў Беларусі, Расійскай Федэрацыі і Украіны, якія ад імя сваіх дзяржаў — заснавальніц Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік канстатавалі, што „Савецкі Саюз як суб’ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасць спыняе сваё існаванне”, і падпісалі пагадненне аб утварэнні Садружнасці Незалежных Джяржаў. Адным з трох чалавек, якія падпісалі белавежскае пагадненне аб юрыдычным замацаванні распаду СССР быў **Станіслаў Шушкевіч**. З першым кіраўніком незалежнай Беларусі пра падзеі са снежня 1991 г. размаўляюць Юрка Ляшчынскі і Анна Пятроўская:


www.se.pl

**— Спадар прафесар, скажыце, хто быў ініцыятарам сустрэчы ў Віскулях?**

— Ініцыятарамі сустрэчы былі кіраўнікі Беларусі — Кебіч, кіраўнік выканаўчай улады, і я, кіраўнік заканадаўчай улады. Мы хацелі вырашыць адзінае пытанне. Хацелі ўгаварыць расійскае кіраўніцтва пастаўляць нафту і газ без перабояў. У нас не было грошай на зіму, ні магчымасці на крэдыт. Увосень мы сустрэліся на перамовах у Нова-Агарове. Гэта была другая палова кастрычніка, прыгажосць неймаверная. Я кажу Ельцыну: у вас тут хораша, але бываюць і іншыя прыгажосці. У нас унікальная пушча, акрамя таго, мы забяспечым Вам умовы як паляўнічаму. Я гаварыў з ім пра перамовы як пра забаўляльную вандроўку. Ельцын прыехаць у Віскулі пагадзіўся. Кебіч параіў запрасіць яшчэ і кіраўніка Украіны Краўчука. Тады я патэлефанаваў Ельцыну і спытаў, ці не будзе той супраць. Ён з задавальненнем пагадзіўся і на гэта. Я заўсёды падкрэсліваю, што мы сустрэліся ў Віскулях не дзеля таго, каб падпісаць юрыдычнае пагадненне аб распадзе СССР, але каб дагаварыцца пра пастаўку расейскага газу і нафты. Кожная рэспубліка прыняла раней дэкларацыю аб суверэнітэце, а краіны Прыбалтыкі яшчэ раней адлучыліся ад імперыі. Мы абяцалі зрабіць парадак у сваіх краінах. Што важнае, так вялікая дзяржава як СССР распалася без кровапраліцця.

**— Усе вы хацелі, каб паўстала Садружнасць Незалежных Дзяржаў узамен Саюза?**

— Усё мы рашалі праз кансенсус. Былі згодныя не толькі мы як кіраўнікі, але ўсе тыя, хто з намі быў. Белавежскае пагадненне падпісала не тры, а шэсць асоб, першыя і другія асобы ў дзяржавах. Ельцын, Краўчук і я падпісалі толькі маленькае пагадненне пра тое, што мы ў пагадненні прынялі.

**— Спадар прафесар, ужо 21 год будзе. Ці гэтае рашэнне было правільным?**

— Правільнае, паглядзіце, што было ў Югаславіі, колькі там загінула людзей. Нядаўна ў мяне ў Маскве выйшла кніжка „Маё жыццё, крах і ўваскрашэнне СССР” і там я ўсё апісаў.

**— Усё ж такі шмат было крытыкі пагаднення як у самой Беларусі, так і ў Расеі.**

— Крытычныя словы былі, але не ў Белавежы і не ў Віскулях. Мы сказалі, што хопіць дэмакратычнага цэнтралізму, хопіць таго, што большасць прымае рашэнне, якое для меншасці ёсць брутальнае і непатрэбнае. Усе былі за. Правільнасць рашэння пацвердзіла тое, што праз 4 дні, парламенты трох гэтых рэспублік ратыфікавалі белавежскае пагадненне, а праз тыдзень, далучыліся да яго яшчэ восем. На канец таксама Грузія далучылася.

**— Зараз са стараны афіцыйных улад бачна як бы рэактывацыя маленькага Савецкага Саюза, падпісваюцца мытныя пагадненні з Казахстанам і іншыя дамовы, якія ў прынцыпе абмяжоўваюць незалежнасць Беларусі. Што з гэтым?**

— Жывучы ў Беларусі, дзякуючы прэзідэнту Лукашэнку нельга не заўважыць, што ўваскрашэнне Савецкага Саюза адбылося ў значнай ступені. Больш пасля таго, як Пуцін распавёў, што распад СССР — найвялікшая трагедыя... Што ж ён гаворыць? Глупства! Забыўся ён, прафесійны шпіён, пра Гулаг, пра пакуты мільёнаў людзей. Пуцін аднаўляе СССР, бо ў Расеі пачынаюць панаваць тыя прынцыпы, якія панавалі ў Савецкім Саюзе.

**— Спадар прафесар, пасля 21 года Беларусі бліжэй да Еўрасаюза ці Расеі?**

— Большасці беларусаў бліжэй да Еўропы. Аднак на сённяшні дзень у нашых СМІ ідзе вялікая антыеўрапейская прапаганда. Гаворыцца як у Еўропе дрэнна жывецца і што ў параўнанні з жыццём еўрапейцаў на Беларусі — рай. Калі ў людзей не памяняецца ментальнасць, да Еўропы мы ніколі не дойдзем. У Беларусі, калі наступіла пагаршэнне пасля савецкіх часоў, усе камуністы сказалі, што гэта віна дэмакратызацыі і трэба з ёю закончыць. Народ не ведае, што выбраць. Яму гавораць, што ўсё шчасце ад Расеі. І калі б зараз запрасіць Беларусь да Еўрасаюза, не ведаю, ці ў рэферэндуме была б перавага. Але каб месяц ці тры ў нас дзейнічалі свабодныя СМІ — я вам гавару, беларусы выбралі б Еўропу.

**— Дзякуем за размову**




Беларускія друкаваныя выданні дэмакратычный накіраванасці сёння знаходзяцца ў надзвычай неспрыяльных умовах для працы і распаўсюду. Некалькі гадоў таму лукашэнкаўскія ўлады дазволілі распаўсюд праз сістэму дзяржаўнага гандлю газет „Наша Ніва” і „Народная Воля”. Цяпер іх практычна заўсёды можна лёгка набыць у газетных кіёсках. Праўда, і дагэтуль над імі ўвесь час вісіць дамоклаў меч закрыцця і скасавання рэгістрацыі. Што ж тычыцца большасці іншых дэмакратычных выданняў, то для іх існуе як і той жа самы дамоклаў меч скасавання рэгістрацыі, так немагчымасць патрапіць у сістэму дзяржаўнага ўсебеларуская распаўсюду. Да адной з такіх газет належыць „Новы час”, які выдаецца ў Мінску дэмакратычным грамадскім дзеячам Аляксеем Каралём.

Газеты „Новы час”, піша ў сваім даследаванні Беларуская асацыяцыя журналістаў, няма ні ў падпісцы, ні ў кіёсках. „Галоўны рэдактар выдання Аляксей Кароль не звяртаўся ў мінулым 2011 годзе да чыноўнікаў з патрабаваннем альбо просьбай вырашыць праблему падпіскі і распаўсюду, бо лічыць гэта бессэнсоўным. Газета распаўсюджваецца ўласнымі сіламі”, — гаворыцца ў справаздачы „Сітуацыя з распаўсюдам друкаваных СМІ — 2012”, што змешчаны на сайце арганізацыі.

Нягледзячы на такія ўмовы, „Новы час” застаецца запатрабаваным. Прынамсі пра гэта сведчыць сайт выдання, які абнаўляецца пастаянна і рэгулярна. Месціцца інтэрнэт-прадстаўніцтва газеты па адрасе http://novychas.info.

Сайт „Новага часу” вызначаецца лёгкай навігацыяй і прадстаўленнем чытачу анонсаў усіх асноўных матэрыялаў па розных рубрыках. Галоўная ж старонка, хоць і не мае значных аздабленняў, перадае мультымедыйнасць партала.

„Факты, падзеі, людзі” — гэта першая старонка ў пераліку рубрык уверсе пад назвай сайта. Там змяшчаюцца навіны з рэгіёнаў Беларусі, тыднёвыя агляды падзей як у краіне, так і за яе межамі, абазначаюцца так званыя „фігуры тыдня” — людзі, якія за пэўны перыяд вызначылі сябе вельмі яскрава. Ёсць там падрубрыка пад назвай „Ад рэдактара”. Праўда, яна не надта адпавядае сваёй назве — артыкулы падпісаны, магчыма, журналістамі, але нідзе на сайце няма згадкі, што яны рэдагуюць нейкія матэрыялы.

Калі паглядзець на пералік астатніх рубрык, то ўражвае шырыня поглядаў, якія прытрымліваецца „Новы час” — „Палітыка”, „Грамадства”, „Эканоміка”, „Замежжа”, „Культура”, „Повязь часоў”, „Асоба”, „Літаратурная Беларусь”. Пра апошнюю варта сказаць асобна.

„Літаратурная Беларусь” — гэта сумесны культурна-асветніцкі праект „Новага часу” і Саюза беларускіх пісьменнікаў. Яна пачала выходзіць з 2007 года як выданне ў выданні. Там друкуюцца творы сябраў Саюза пісьменнікаў. Ад 2001 года, калі ў пісьменніцкай арганізацыі былі адабраныя дзяржавай такія выданні, як тыднёвік „Літаратура і мастацтва”, часопісы „Маладосьць” і „Полымя”, „Літаратурная Беларусь” стала адказам на гэтую „антылітаратурную рэпрэсію”.

Што ж тычыцца гісторыі „Новага часу”, то яна пачалася ад сакавіка 2002 года. Праўда, на сайце маецца архіў нумароў толькі ад лістапада 2008 года.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## БЕЛАРУСІ Скарбы

### „Заходнік” на ўсходзе

Беларусі пашчасціла ў пэўным сэнсе крыху больш, чым Украіне — у плане таго, што ў нас няма такой розніцы паміж заходняй і ўсходняй часткамі краіны. На тэрыторыі нашай паўднёвай суседкі зараз фактычна два народы — украінскі і савецкі — і падзелены яны найперш геаграфічна. Яшчэ гадоў трыццаць таму гістарычны падзел паміж Заходняй і Усходняй Беларуссю быў таксама значны, але зараз розніца амаль нівелявалася — усходні рэгіён крыху падцягнуўся, заходні ўпаў, а „саўкі” размеркаваны амаль раўнамерна. Але зараз хочацца пагаварыць пра горад на самым усходзе Беларусі, які заваёўнікам да канца не ўдавался скарыць праз стагоддзі. Гутарка тут пра Мсціслаў — мясцовасць на самым краёчку сучаснай дзяржавы, адзін з самых усходніх раённых цэнтраў Беларусі.

У 1987 годзе ў Мсціслаў нас, студэнтаў гістарычнага факультэта, прывёз на раскопкі наш універсітэцкі выкладчык Міхась Ткачоў. Памятаю як ехалі мы цягніком праз усю Беларусь ажно да крайняй станцыі — Ходасы. А адтуль ужо блізка Мсціслаў. Горад, які заўсёды быў далёка ад галоўных культурных цэнтраў Беларусі — Вільні, Гародні, Полацка, Нясвіжа ўразіў якраз нейкай сваёй „заходнясцю”. Невыпадкова класік нашай літаратуры Уладзімір Караткевіч, які папулярызаваў многія мясцовасці Беларусі, прысвяціў Мсціславу разгорнутае эсэ, па сутнасці цэлую асобную літаратурна-гістарычную кніжку.

Горад на высокім беразе ракі Віхры багаты на археалагічныя помнікі — у старажытнасці людзі сяліліся на Замкавай гары, Траецкай, а таксама на Дзявочай гары, якая па-іншаму завецца „Гарадок”. Невыпадкова тут так часта вяліся раскопкі, пачынаючы яшчэ з 1920-х гадоў. Аднайменнае княства паўстала ў XII стагоддзі, калі паселішча атрымаў у валоданне сын смаленскага князя Рамана Расціславіча — Мсціслаў. Ён загінуў у страшнай бітве з манголамі на рацэ Калка. Потым быў удзел мсціслаўцаў у Грунвальдскай бітве і шмат іншых ваярскіх старонак. У разгар войнаў ВКЛ з Масковіяй Мсціслаў прыдбаў рэпутацыю няскоранага горада. Яго жыхары змагаліся з рэдкай зацятасцю, пакуль драпежны вораг не выразаў фізічна амаль усіх і вывез апошніх 46 палонных ваяроў у Яраслаўль. Агулам у час гэтай змрочнай падзеі, якая ўвайшла ў гісторыю як „трубяцкая разня”, маскоўскімі акупантамі было забіта каля 15 тысяч чалавек, жывымі засталося толькі каля 700 месцічаў. Менавіта адтуль пайшло выслоўе „мсціслаўскія недасекі”. Магчыма з такіх паходзіў і наш настаўнік Ткачоў, які нарадзіўся менавіта ў Мсціславе.

Мсціслаў дагэтуль недаацэнены ў нашай гісторыі, а некалі ён быў адным з асяродкаў старадаўняй пісьменнасці. Менавіта адсюль паходзіў памочнік першадрукара ў Масковіі Івана Фёдарава — Пётр Мсціславец. Абодва яны былі з нашых зямель і яшчэ невядома хто каго вучыў кніжнай справе. Славіўся горад і сваімі шматлікімі рамеснікамі, многія з якіх былі сапраўднымі майстрамі сваёй справы. Да нас дайшло імя Сцяпана Палубеса — генія вырабу кафлі, майстра маёлікавых рэльефаў, які прынёс каляровы стыль у Маскву.

Нашы раскопкі чвэрць стагоддзя таму ішлі каля мясцовага кармеліцкага касцёла Успення. У ім захаваліся унікальныя фрэскі XVII стагоддзя. Мсціслаў меў некалі цэлы архітэктурны ансамбль — так на плане 1773 года ў цэнтры было 6 мураваных цэркваў, 4 каталіцкія кляштары і драўляная уніяцкая царква.

Пра Мсціслаў зараз пішуць мала і рэдка. Але кожны, хто хоць раз пабываў у гэтым горадзе, ведае пра „заходні” характар гэтага ўсходняга ўскрайка Беларусі.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Не ўсім усё дазволена...

На сесіі Рады гміны ў Чаромсе, якая адбылася ў пачатках верасня, радныя прынялі рашэнне аб павышэнні ставак платы за ваду. Павышэнне цэн назначалася ад чацвёртага квартала, значыць ад 1 кастрычніка 2012 г. Апошні рахунак за ваду гміна выставіла 22 жніўня па стаўцы 1,81 зл. Чарговая праверка лічыльнікаў праходзіла ў лістападзе. І тут выніклі спрэчнасці, якія тычыліся ставак за кубаметр расходаванай вады. На дзень 30 верасня была зафіксавана стаўка па 1,81 зл. за кубаметр, ад 1 кастрычніка — па 2,10 зл. Мне, як і многім жыхарам гміны, незразумелай здавалася быць такая арыфметыка. Як можна запісаць стан расходаванай вады на 30 верасня, калі не было праверкі лічыльнікаў? Такія закіды ў адрас гміны пачуў я на сходзе гуртка Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў у Чаромсе 15 лістапада. Падаўся я ў гміну, каб высветліць справу. Войт Юры Шыкула не змог адказаць на пытанне. Папрасіў затым свайго намесніка і працаўніцу фінансавага аддзялення. На маё пытанне ці гэта законна павышаць стаўкі ў час бягучага разліковага тэрміну, чыноўніца адказала сцвярджальна. Але не змагла прад'явіць закону, якім фінансавае аддзяленне пакарысталася пры гэтай здзелцы. Справа спынілася на тым, што адказ меў я атрымаць пасля двух тыдняў, калі гмінны скарбнік вернецца з водпуску.

30 лістапада не заспеў я зранку войта на працы. „Падаўся ў раён", — паясніла кіраўнік канцылярыі. Намеснік войта рэкамендаваў падацца да скарбніка. Не стану пісаць сцэнарый размовы. Чыноўніца зразу паясніла, што не бачыць спрэчнасці ў рахунках.

— Аб'ява аб павышэнні ставак была пададзена да публічнага ведама на гміннай дошцы аб'яў, — патлумачыла. — А лічыльнікі ва ўсёй гміне немагчыма было спісаць на працягу трох тыдняў. Затым была вылічана сярэдняя колькасць расходаваных кубаметраў вады, адпаведна для данага перыяду. Гэта лагічнае разуmаванне...

Мне такая рыторыка, зразумела, не падабалася. А калі я паспрабаваў застацца пры сваіх аргументах, пачуў з'едлівы намёк: „Pan szuka w całym dziury. Dotąd nikt z 1400 użytkowników nie wnosił pretensji... Tylko panu się nie podoba".

Але гэта не канец справы. Мая субяседніца не змагла даць станоўчага адказу і на другое пытанне: адкуль узялася „сталая аплата", уведзеная ў мінулым годзе і для якой мэты яна служыць. Многія мае суразмоўцы прад'яўлялі закід у адрас гміны, што пры малой колькасці расходаванай вады сума „сталай аплаты" на рахунку перавышае вартасць паслугі.

— Гэта не ад нас залежыць, — канстатавала скарбнік гміны Міраслава Кандрацкая-Найбук. — Такія аплаты выступаюць і на рахунках за электраэнергію. У гэта ўлічваецца кошт амартызацыі і эксплуатацыі водаправоднай сеткі. Гараджане, якія лічацца падаткаплацельшчыкамі ў гміне, мала расходуюць вады, бо прыязджаюць на сядзібы ў летні час або ўік-энды. А за водаправодам трэба наглядаць цэлы год, таксама на іхніх сядзібах. Таму плацім салідарна адну стаўку...

Пасля такой гаворкі прыйшоў я да высновы, што далейшая размова будзе вадой на млын. Падзякаваўшы пані скарбнік за паясненні выходжу ні з чым з кабінета. Вяртаючыся дамоў паспрабаваў задумацца над пытаннем, чаму ў дэмакратычнай і праваой дзяржаве царыць такая несправядлівасць. Калі беднаму чалавеку штораз цяжэй прыходзіцца жыць, бо канцы з канцамі ледзь зводзіць, абраннікі народа жывуць у дастатку. Атрымліваюць яны высокія зарплаты і карыстаюцца шматлікімі прывілеямі. У Чаромхаўскай гміне, напрыклад, радныя прынялі рашэнне, каб замест дыеты плаціі ім дагаворную стаўку. Раней бралі па 150 зл. за кожную сесію або пасяджэнне камісіі. Зараз атрымліваюць 250 зл. месячнага „рычалту". Калі не ўдзельнічаюць у пасяджэнні, дастаюць палову стаўкі, г.зн. — 125 зл. Пры камуне ў крузе чыгуначнікаў (ды не толькі), хадзіла такая прымаўка: „Czy się stoi, czy się leży, tysiąc złotych się należy". Але цяперашняя рэчаіснасць у дэмакратычнай дзяржаве напамінае: „Не ўсім усё дазволена".

І гэтай логікай карыстаюцца самаўрадавыя чыноўнікі Чаромхаўскай гміны.

**Уладзімір СІДАРУК**

**PS.** У панядзелак зранку (3.12.) патэлефанаваў я ў гміну і папытаў войта, ад калі радным дыеты замянілі на дагаворную стаўку, і ці гэта такі закон уведзены ў Чаромхаўскай гміне, ці ў павеце ды хто быў ініцыятарам? Войт адказаў: „Даклада не памятаю, калі наступіла перамена, здаецца ў ліпені г.г. Месячная стаўка — 250 зл. У час адсутнасці на пасяджэнні радны атрымлівае 125 зл. З таго, што мне вядома, такі закон практыкуецца ў іншых гмінах. Хто прад'явіў такую ідэю, мне цяжка сказаць. На гэта можа адказаць старшыня Рады гміны Надзея Суліма".

Усё зразумеў. Адказ войта пакідаю без каментарыя.

**(ус)**

5 ☞працяг

# Заступнік...

— Заўсёды так было, таксама ў даўняй Рэчы Паспалітай, што краіны, якія прымалі бежанцаў, мелі з гэтай прычыны карысць.

І непасрэдна да беластоцкіх чачэнцаў:

— Не толькі вашыя дзеці наш прыбытак, але і вы: ваша адчуванне свабоды, клопат за сям'ю. Першым у ланцугу зла ёсць няведанне: спачатку аб тутэйшых меншасцях, пасля прыезджых. Трэба гаварыць праўду. Гэта для нічога не ёсць абразай, і гэта згоднае з гонарам. Гэта не скарга, не скуголенне.

У час сустрэчы на юрыдычным факультэце УуБ спадарыня прафесар не скрывала:

— Узровень правасуддзя ў Польшчы за апошнія гады рашуча пагоршыўся. Штораз больш ускладняецца ў Польшчы юрыдычная сістэма: яе мова і дзеянні органаў. Звычайны чалавек не ў змозе дайсці да мэты без пасрэднікаў у адносінах да дзеянняў улады. ЗГП гэта адзіны орган у Польшчы, які мае ўпісаны ў свае дзеянні прынцып грамадскай справядлівасці. Суды штораз радзей прымяняюць гэтую прававую агаворку. Мы з'яўляемся сістэмай ранняга папярэджання.

Асцерагала:

— Можам быць слугамі Еўропы ў гэтым яе культе дасканаласці.

І адзначыла:

— Гэты рэгіён можа Польшчу ўвесці ў XXI стагоддзе праз сваю культурную разнастайнасць, якая для дзяржавы з'яўляецца штодзённасцю.

Пры нагодзе намаўляла align="left">рознамасных нацыяналістаў, расістаў і ксенафобаў да правядзення абследавання свайго ДНК:

— Кожны можа дакапаца нават да афрыканскіх каранёў, бо мы ўсе родам з Афрыкі. Нацыяналізм сёння проста смешны.

Аб неанацыстах:

— Часам можна сёння гаварыць у Польшчы нават не аб неанацызме, а аб неагітлерызме.

Функцыя Заступніка грамадзянскіх правоў існуе ў 140 краінах свету. У Польшчы стварылі гэтую ўстанову 25 гадоў таму. У год у сярэднім ЗГП выступае ў міністэрствы за змену закону 120 разоў, у Канстытуцыйны трыбунал — больш за дзесяць. Падае ад 300 да 500 касацыйных заяў на рашэнні судоў. Сама ўстанова омбудсмена не мае юрыдычнай сілы. Індывідуальныя яго інтэрвенцыі можна лічыць у год у тысячах.

# Адгаданка

1. адна- або двухгорбая жывёліна пустынь і сухіх стэпаў, 2. частка тэксту з некалькіх сказаў, 3. ручная рычажная або спрунжыннач вага, 4. форменнае паліто, 5. вялікая звязка, напрыклад, саломы, 6. лютая пара года, 7. галоўная епархіяльная царква, 8. хадзіў у ярме, 9. Chicago, 10. для яго комін, 11. каробачка маку, 12. гарбата, 13. спецыяліст па падводных работах, 14. няволя ў ходзе вайны.

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | | | | | | | | | | 3 |
| | | | | | | | | | | 4 | | | |
| | | 5 | | | 6 | | 7 | | | 8 | | 9 | |
| 10 | | | | | 11 | | | 12 | | | | | |
| 13 | | | | | | | | | | | | | 14 |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — яўрэйская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 45 нумара**

Бубен, два, Ева, Ірак, Кітай, цаля, цыган.

Рашэнне: **Ад вялікай беганіны абутак рвецца.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

# 09.12 — 22.12

**(22.03. — 20.04.)** Прыслухоўвайся свайму ўнутранаму голасу. Неператамляйся. 13-17.12. не ўваходзь у ніякія суполкі і ўважліва чытай усе дамовы. Можаш стаць ахвярай непаразумення і абману. 17-21.12. твае старанні за павышэнне ўрэшце прынясуць вынік.

**(21.04. — 21.05.)** 9-13.12. прыбудзе табе адвагі. Калі трэба скажаш „не". 13.12. можаш перайсці на пасняховую, лягчэйшую дыету. 17-21.12. мірна палагодзіш усе спрэчныя справы, тваімі козырамі будуць тактоўнасць і дыпламатыя. Хаця не ўсе будуць адносіцца да цябе парадачна.

**(22.05. — 22.06.)** Будуць табою захапляцца. 11-31.12. удасца табе шчыра паразмаўляць з каханай асобай. Будзеш мець рэфлекс, ззянне і геніяльныя завяршэнні. Добры час на здаванне экзаменаў і абучэнні. Ды 9-13.12. чыесь паводзіны спрычыняцца да таго, што страціш да яго давер. 15-19.12. не кідай слоў на вецер, бо будуць цябе разлічваць з абяцанняў.

**(23.06. — 23.07.)** 13.12. знойдзеш у сабе сілу і ахвоту, каб змяніць благія звычкі і пачаць штосьці новае. У палове месяца можа ахапіць цябе знеахвочанне, можаш пераацаніць свае магчымасці ці стомішся ад абавязкаў. Менш кілаграмаў, больш радасці. Непаразуменні ў пачуццях кончацца.

**(24.07. — 23.08.)** Старасвецкі чар фліртy. Грошай не мусіш шукаць, самі прыйдуць. У кар'еры шмат працы і задавальнення. Пачнуць даваць працэнты старыя інвестыцыі. Ды не хваліся сваёй формай, бо раптам можаш прастудзіцца. Будзеш актыўна працаваць у выхадныя.

**(24.08. — 23.09.)** 12-16.12. станеш больш незалежным і самайстойнам. Не спалохаешся эксперыментаў. 9-13.12. можаш трапіць у кабалу; не паддавайся асобам, якіх добра не ведаеш, нават калі выклікаюць добрае ўражанне. У палове месяца не абмінуць цябе спрэчкі з калегамі (не папракай іх у некампетэнтнасці).

**(24.09. — 23.10.)** 9-13.12. будзеш мець сілу, трываласць, поспех у імкненні да мэты. 17-21.12. будуць спрыяць табе асаблівa карысныя выпадкі; рэалізуй нават самыя шалёныя задумы. Ды 14-18.12. могуць ускладніцца адносіны з людзьмі; удакладні, ці цябе добра зразумелі; не падпісвай ніякіх дамоў і нічога не абяцай.

**(24.10. — 22.11.)** Шыкуецца павышэнне або прэмія. Можа паявіцца цікавая прафесійная прапанова. 13.12. асцярожна абыходзься з грашыма. 20-24.12. твае надзеі могуць не здзейсніцца, а планы зрэалізавацца напалову; усё ж не складвай рук і выкарыстай усе свае сілы. У суботы памагай патрабуючым.

**(23.11. — 22.12.)** 11.12. дай з сябе ўсё, бо маеш вялікі шанц на поспех. У другой палове месяца будзеш пад уплывам Венеры, плануй рамантычныя і кампанейскія сустрэчы. 11-15.12. з-за сваёй бесталковасці можаш занядбаць абавязкі; слухай уваг шэфа. Узрасце тэмпература пачуццяў. Паправіцца форма, толькі час ад часу пабаліць галава.

**(23.12. — 20.01.)** Набліжаецца фінансавы рост. У жыцці пройдзе штосьці новае і незвычайна інтрыгуючае. Будзеш прыцягваць усё і ўсіх. Жаданні павінны здзейсніцца. Ад 19.12. добры момант для наладжвання знаёмстваў і перамоў. У апошнюю дэкаду снежня адчуеш сябе як нованароджаны.

**(21.01. — 19.02.)** 13.12. Уран перастае ісці заднім ходам. Удары яшчэ раз у дзверы, у якія ты стукаў без поспеху, і адчыняцца. 17-21.12. сустрэнеш каханне або... уваскрэсіш яго. Не бойся дзіўных думак — твая падсвядомасць дае табе знак аб блізкасці кардынальных перамен у тваім жыцці. 12-16.12. будзь асцярожны ў адносінах з шэфам; не стаў спраў рубам.

**(20.02. — 21.03.)** Твае жаданні павінны здзейсніцца. 9-13.12. пільнуйся, каб не панеслі цябе эмоцыі і не ўключайся ў не свае справы. У палове месяца малыя непаразуменні і могуць кончыцца вялікім скандалам. 20-24.12. усміхніся і павер у сябе.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.



Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Каля Страблі

**Чарговы новы год набліжаецца з чарговым Дзедам Марозам, які прывязе ў сваіх санях чарговыя нам навагоднія падарункі. У гэты раз, як ужо даведаліся пранырныя нашы медыі, мае гэта быць чарговы новы расклад язды цягнікоў, які прынясе чарговыя скарачэнні, якія ў чарговы раз накіраваныя на лініі, што вядуць на поўдзень і ўсход ад Беластока. Хаця да гэтай пары некаторыя спалучэнні ўдавалася захаваць, аднак у гэты раз наступ скарачэнняў здаецца быць неадхільны. З трох курсаў паміж Беластокам і Чаромхай мае астацца толькі адзін; мае кануць у Лету той курс, якім я раніцай падаваўся з Беластока ў наш тутэйшы штораз менш шырокі свет. І пакуль тое спалучэнне, як некаторыя дзяржавы ў сваіх нацыянальных гімнах, яшчэ не прапала, падаўся я на ранішні цягнік у напрамку Бельска.**

Чыгуначны прыпынак Беласток-Стадыён нейкі час таму быў закрыты з-за пабудовы побач яго новага дарожнага віядука над пуцямі. Новы віядук ужо пабудаваны, а цяпер будуецца іншы новы — замест старога, але цягнікі ўжо ездзяць. Падаўся я на згаданы прыпынак яшчэ да досвітку, не надта ведаючы, як да яго дабрацца цераз будаўнічыя раскопы. Спіральны пад'ём новай дарогі з новага віядука ў напрамку прыпынку завёў мяне ў раскапаны тупік. Знайшоў я ў поцемках нейкую кволую лясную сцяжынку, якая ўмомант вывела мяне на перон.

На месцы закрытай ад шматлікіх гадоў пачакальні зараз высіцца высокі тэрыкон свежа раскапанай зямлі. Але на прыпынку сабралася сем пасажыраў — дагэтуль заўсёды бывала менш. Прыехаў цягнік, які ў народзе называюць „бананзай"; назва пайшла ад коннага дыліжанса, які ездзіў калісь у аднайменным тэлесерыяле. Паколькі гэта даволі кароткі самаездны вагон, а гэта абазначае нестабільнасць — ехаў ён даволі памяркоўна. На „мой" прыпынак у вагоне прыехала бадай адзінаццаць пасажыраў, у Лявіцкіх села двое і разам было нас ужо дваццаць. Кандуктарка сварылася з тымі, што ехалі з галоўнага беластоцкага вакзала без білетаў не паведаміўшы яе загадзя пра гэта і паказвала на насценнае паведамленне, што за такія паводзіны пагражае штраф у 250 злотаў; нікога, аднак, не аштрафавала. У Галоўках адзін пасажыр вылез, у Зімнохах нічога не памянялася, у Страблі адзін пасажыр выйшаў і адзін увайшоў, у Райску злезла двое пасажыраў, у тым ліку і я...

Даўно я быў на гэтым месцы, а за час маёй адсутнасці адбылася там карэнная змена — знік з твару зямлі мураваны вакзальны будынак. Нейкіх пятнаццаць гадоў таму яшчэ жыла ў яго частцы нейкая сям'я, аднак сенцы, што вялі ў знішчаную ўжо ўсялякімі гарэзамі пачакальню, адкалваліся ўжо ад галоўнага корпуса. Цяпер месца, дзе стаяў будынак, зарасло ўжо травою. Ад станцыі Райск астаўся ўжо толькі перон. Чыгунка ў гэтым месцы была пачала сваю дзейнасць у 1873 годзе; цікава, ці датрывае яна да 150-годдзя — значыць яшчэ адзінаццаць гадоў...

Ад прыпынку Райск накіраваўся я ў бок Сталавача. На тапаграфічнай карце пазначана кволая дарога паміж гэтымі месцамі, па якой я і задумаў прайсціся. Гэта даязная дарога на палі, раз'езджаная трактарамі, аднак быў на яе балоцістым палатне і след легкавушкі. Сучасны чалавек так прывык выгадна сядзець, што нават на поле падаецца ў фатэлі. А я на сваіх дваіх коўзаўся па гэтым балоцы ў напрамку Сталавача. Там ужо здалёк відаць вялікі серабрысты паралелепіпед, па якім ужо на досвітку караскаліся чорныя, быццам мухі, сілуэты манцёраў, завяршаючых абліцоўку гэтага збудавання. Мае там быць зборачны цэх канструкцыйных элементаў для будаўніцтва сельскагаспадарчых аб'ектаў.

Сама мясцовасць Сталавач не надта разлеглая. Быў там калісь фальварак, у якім гетман Браніцкі трымаў сваіх коней. У палове XVIII стагоддзя быў там пабудаваны панскі двор; у час яго будаўніцтва рабочыя збунтаваліся да той ступені, што для здушэння бунту было паклікана войска. Адзін з уласнікаў фальварка задумаў быў пабудаваць там царкву, у якой мела знайсці месца цудоўная ікона, што паказалася ў лесе каля Храбалаў, аднак валы, што цягнулі воз з іконай, спыніліся ў Райску і далей ніяк не маглі рушыць; царква такім чынам была ўзведзена ў Райску, дарэчы — яе выдатна відаць са Сталавача. А ікона з раенскай царквы прапала ў Расіі ў час бежанства. Фальварак Сталавач быў у 1910 годзе распарцаляваны; цяпер на яго месцы некалькі таварных гаспадарак.

Перад расхаднымі дарогамі ў Сталавачы стаіць крыж, надпіс на якім пачынаецца з літар „От..."; падумалася мне, што гэта можа быць праваслаўны крыж. Але калі падышоў бліжэй, тады высветлілася, што гэта лацінскі крыж з дапушчанай памылкай у просьбе: „Ot powietrza głodu ognia i wojny wybaw nas Panie". І высветлілася яшчэ, што я на некалькі дзён спазніўся на круглы яго юбілей, бо крыж



Каплічка на мулявіцкім панадворку

той быў узведзены сто гадоў таму: 6 лістапада 1912 года; цікава, ці жыхары былога маёнтка неяк гэтую гадавіну ўшанавалі...

Ад асфальтавай дарогі са Сталавача ў Мулявічы адыходзяць жвіроўкі ў Мешукі і Гуса-кі. Пры гэтых расхадных дарогах невялікія зараснікі, а ў абодвух тых зарасніках дзікія звалкі ўсялякай сельскагаспадарчай непатрэбшчыны. Цалкам магчыма, што такія звалкі каля расхадных дарог невыпадковыя, бо ж пры расхадных дарогах, паводле народных павер'яў, дзяжураць чэрці, таму народ, выкідаючы непатрэбшчыну *do diabła*, вязе яе менавіта ў такія месцы.

Даведнік Вышкаўскай гміны так піша пра Мулявічы: „Mulawicze były zapewne wsią zamieszkałą przez ludność chłopską w ramach dóbr Strabla. Nie ma jej w wykazach wsi drobnoszlacheckich, ani wśród wsi królewskich. Zaznaczano ją na mapie z końca XVIII wieku. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego wspomina o niej bardzo skromnie. W końcu XIX wieku ziemia dworska została uwłaszczona. W 1921 roku w tej miejscowości notowano 52 domy i 301 mieszkańców, wśród nich 297 katolików i 4 Żydów. Była to jedna z większych miejscowości na terenie gminy Wyszki". У цэнтры вёскі стаіць мураваная капліца, аднак яна зараз у незайздросным стане: аконныя праёмы без шыб, ды і ўсярэдзіне быццам нейкі ўраган прайшоў. Праўла, даведнік Страбельскай парафіі інфармуе, што ёсць у Мулявічах даязная капліца ў былой катэхетычнай зале.

Тая зала, мабыць, знаходзіцца ў будынку былой школы, які зараз разбудоўваецца; школа была закрыта ў 2005 годзе. На шчытавым баку адной са стадолаў, што з боку Страблі, своеасаблівы сельскагаспадарчы музей, дзе пачэплены колы ад жалезняка ды элементы конскай вупражы з хамутом і дугою, а гэта пазіцыянуе Мулявічы ў іншай этнакультурнай прасторы, чым падказваюць афіцыйныя даведнікі.

Зараз за Мулявічамі дарога ў Страблю пралягае цераз відовішчны алёс з аголенымі ствaламі вольхаў. Алёс гэты ўтварыўся на тэрыторыі постледавіковай прадаліны Нарвы.

Перад Страбляй, за дарогай у Яцэвічы, помнік на магіле паўстанцаў 1863 года. На ім, на сімвалічных косах і прапарах, прымацавана табліца з надпісам „Za wiarę i ojczyznę". Падаецца мне, што такіх табліц на тутэйшых „акопах святой Тройцы" больш. І ў мяне такое падазрэнне, што менавіта такія лозунгі найбольш спараджаюць мясцовую ксенафобію. І пакуль такія лозунгі будуць уздзейнічаць на свядомасць часткі мясцовага насельніцтва, датуль будуць здарацца акты ксенафабічнага характару, якія ў апошнім часе мелі месца на Беласточчыне. Можа ладжаныя апошнім часам урокі талерантнасці нешта выправяць, аднак мяркую, што добра было б зацікавіць уплывам такіх лозунгаў на грамадскую згоду мясцовых ініцыятараў гістарычных помнікаў — значыць гмінны і парафіяльны актыў.

Базылі Гуторскі, уніяцкі беластоцкі дэкан, у 1773 годзе так быў пісаў пра адну падзею з наваколля Страблі: „Parafia [Suraż]. Miasteczko Suraż, wieś Zawyki, Baranki. Do tej cerkwi należała wioska Doktorce, do starostwa Strabelskiego należąca, lecz za objęciem tego starostwa WJM pan Starzyński do odmienienia obrządku z greckiego na rzymski, pod karą cielesną przymusił i do kościoła Strabelskiego przyłączył roku 1768". Сучасныя гісторыкі, апісваючы царскае ў нас панаванне, часта падкрэсліваюць насільны перавод мясцовага насельніцтва з уніятаў у праваслаўе; мелі з каго царскія чыны браць прыклад. А змаганне „за веру" набыло даволі трывалы характар.

У 1518 годзе кароль Жыгімонт Стары ажаніўся з італьянскай міланскай прынцэсай Бонай Сфорцай. Следам за новай каралевай у Рэч Паспалітую наязджае мноства ўсялякага італьянства, якое прывозіць з сабою ўсялякія невядомыя тут дагэтуль навінкі. Вікіпедыя: „Ад самага прыезду ў Польшчу ў 1518 Бона мела шматлікае атачэнне з італьянцаў, адмыслоўцаў розных галін, у тым ліку кухараў, якія аказалі значны ўплыў на пашырэнне найноўшых заходнееўрапейскіх культурных і тэхнічных дасягненняў, спажывецкіх прыхільнасцяў эпохі Рэнесансу, у тым ліку на ўдасканаленне меню, спачатку толькі найвышэйшых арыстакратычных колаў Польшчы і ВКЛ. З дзейнасцю Боны Сфорца звязваюць з'яўленне або пашырэнне ў меню арыстакратыі экзатычнай усходняй садавіны — апельсінаў, лімонаў, гранатаў, фігаў, прыпраў — шафрану, фенхелю, імбіру, цынамону, цукру, а таксама аліўкаў, каштанаў, разынак, мігдалаў, марцыпанаў, рысу і г.д. Найбольш яскравым нowаўвядзеннем эпохі Боны лічыцца салата і іншая агародніна, а таксама ўвядзенне ў карыстанне відэльца і г.д. Боне Сфорца таксама прыпісваецца дасканалае валоданне атрутамі, яе падазраюць у арганізацыі атручвання апошніх з незалежных мазавецкіх княжатаў у 1522 і непажаданай нявесткі Барбары Радзівіл у 1551".



Strada bella да палаца ў Страблі

Надворным лекарам Жагімонта Старога становіцца італьянец Антоніо Кройна, якому кароль даў зямельны надзел на ўзгорку над ракою Нарвай, на якім доктар узвёў двор, а дарогу да яго назваў *strada bella*, што паітальянску абазначала прыгожую дарожку. Мясцовыя гэтую назву крыху скарацілі і атрымалася Страбля.

*(працяг будзе)*

ISSN 0546-1960